1925-

# Шлях Коопэрацыі







## Бюлетэнь

**Цэнтральнага коопэрацыйнага савету БССР**











-1928

**Юбілейны**

№ 6 (66)
КРАСАВІК
МЕНСК
1928

# ЗЬМЕСТ

Стар.

ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# ШЛЯХ КООПЭРАЦЫІ


ШТОМЕСЯЧНЫ БЮЛЕТЭНЬ
ЦЭНТРАЛЬНАГА
КООПЭРАЦЫЙНАГА САВЕТУ БССР

4-ы ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 6 (66)
КРАСАВІК
1928 года





МЕНСК

# ПРЫВІТАНЬНІ
## ДА НАШАГО 3-ГАДОВАГА ЮБІЛЕЮ

### СПАЖЫВЕЦКАЙ КООПЭРАЦЫІ

Праўленьне Белкоопсаюзу горача вітае кіруючы орган коопэрацыі Беларусі—бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“.

Аб'яднаны орган беларускай коопэрацыі на працягу 3 гадоў свайго існаваньня на сваіх старонках пасьпяхова асьвятляў вопыт, мэтоды працы і шляхі далейшага разьвіцьця коопэрацыйнага будаўніцтва. „Шлях Коопэрацыі“ зьяўляецца верным памочнікам нізавых коопэрацыйных работнікаў і актыву ў справе кіраўніцтва з году ў год усё ўзрастаючай коопэрацыйнай гаспадаркай.

Жадаем і ў далейшым „Шляху Коопэрацыі“ расьці і разьвівацца і змагацца за паляпшэньне працы коопэрацыі, змагацца з усякімі перашкодамі на шляху будаўніцтва савецкай коопэрацыі.

*Праўленьне Белкоопсаюзу.*

---

### РАБОЧАЙ КООПЭРАЦЫІ

Дальнейшее социалистическое строительство требует новых кадров вполне подготовленных работников. Борьба за культурного цивилизованного кооператора в настоящее время приобретает особую остроту.

Кооперативный журнал „Шлях Коопэрацыі“ с первого момента своего возникновения поставил перед собой задачу поднять культурный уровень кооперативного актива, и надо сказать, что к своему трехлетнему юбилею в этом отношении имеет большие заслуги.

Нет того кооперативного уголка, где бы не читался „Шлях Коопэрацыі“. „Шлях Коопэрацыі“ стал серьезным руководящим органом кооперативного актива, и надо бесспорно признать, что он значительно способствует расширению кругозора кооперативного актива.

Пожелаем же, чтобы этот журнал, став не только органом кооперативного актива, но и всех кооперированных масс, и в дальнейшем шел по намеченному пути, способствуя под'ему культурного уровня кооперативных работников и улучшению работы кооперации.

*Белрабсекция.*

---

## СЕЛЬСКА-ГАСПАДАРЧАЙ КООПЭРАЦЫІ

Праўленьне і супрацоўнікі Белсельсаюзу ў дзень трэцяй гадавіны часопісу „Шлях Коопэрацыі“ шлюць яму сваё гарачае прывітаньне.

Мы ведаем, што 3-гадовае існаваньне часопісу пры маладосьці нашай коопэрацыі, культурнай адсталасьці насельніцтва, адсутнасьці сродкаў і шырокага кадру коопкораў,—гэта 3 гады заўзятай працы ў справе будаўніцтва нашай коопэрацыі.

Мы ўпэўнены, што і ў далейшым часопіс будзе з посьпехам прадаўжаць сваю карысную працу. Жадаем яму поўнага посьпеху.

*Белсельсаюз.*

---

## САМАТУЖНА-ПРАМЫСЛОВАЙ КООПЭРАЦЫІ

Заслуги журнала перед кустарями Белоруссии выявляются в пробуждении кооперативной мысли и подготовке актива для руководства кредитно-промысловыми т-вами и артелями.

Журнал сумел создать вокруг себя сеть корреспондентов и своевременно реагировать на недочеты, подготовляя кооперированную массу трудящихся к проводимым центрами кооперации БССР кампаниям.

Наши пожелания юбиляру—достигнуть широкого рядового читателя, воспитать активиста-кооператора, уделять еще больше статей вопросам кооперативной политики партии и кооперативного просвещения, печатать на национальных языках статьи, имеющие особое значение для кооперации, и вести под руководством коммунистической партии широкие массы по „Шляху Коопэрацыі“.

*Правление и актив белорусской*
*кустарно-промысловой кооперации.*

---

## БЕЛАРУСКАГА АДДЗЯЛЕНЬНЯ ЎСЕКАБАНКУ

Трохгодзьдзе існаваньня часопісу „Шлях Коопэрацыі“ Беларусі мае свае дасягненьні як з боку свайго зьместу, гэтак і па абслугоўваньні падпішчыкаў. Аб часопісу „Шлях Коопэрацыі“ магчыма пачуць ня толькі ў рэдакцыі выданьня, як гэта было раней з выданьнем спажывецкай коопэрацыі „Беларускі Коопэратар“, але аб ім ведае кожны сталы коопэратар селянін, яго пачынаюць ужываць і нашы хаты-чытальні.

Трэба пажадаць, каб да 4-годзьдзя часопіс „Шлях Коопэрацыі“ мела кожная хата-чытальня, каб па ім выхоўваліся будучыя коопэратары, каб ён зрабіўся настольнаю кнігаю кожнага пайшчыка.

*Беларускае аддзяленьне Ўсекабанку.*

## *РЭДАКЦЫІ ГАЗЭТЫ „СПАЖЫВЕЦКАЯ КООПЭРАЦЫЯ“*

Рэдакцыя газэты „Спажывецкая Коопэрацыя“ шле сваё прывітаньне бюлетэню „Шлях Коопэрацыі“ і выказвае цьвёрдую ўпэўненасьць, што сумесная праца „Шляха“ і „Спажывецкай Коопэрацыі“ будзе і ў далейшым дапамагаць коопэраваньню працоўнага насельніцтва і ўцягненьню яго ў практычную работу коопэрацыі.

Жадаем посьпеху ў нашай сумеснай працы.

Адказны рэдактар газэты „Спажывецкая Коопэрацыя“ *Гарноўскі.*

---

## *ГОМЕЛЬСКАГА ЦЕНТРАЛЬНАГА РАБОЧАГА КООПЭРАТЫВУ*

В сравнительно молодой кооперативной системе БССР издание печатного руководящего органа, охватывающего все виды кооперации, является большим достижением.

„Шлях Коопэрацыі“ своим трехлетним преемственным существованием доказал свою жизненность и полезность в деле воспитания большой армии кооперативных работников и кооперативного актива БССР.

Введение в журнал специального справочного отдела увеличило значимость журнала для практических работников кооперации.

Желаем юбиляру продолжать свое полезное дело, вовлекая в свою орбиту новые кадры культурных кооператоров.

*Правление Гомельского Центрального Рабочего Кооператива.*

---

## *КАТЭДРЫ КООПЭРАЦЫІ БЕЛДЗЯРЖУНІВЭРСЫТЭТУ*

Катэдра коопэрацыі Белдзяржунівэрсытэту горача вітае бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“—як аб‘яднаны ворган усяе коопэрацыі БССР—у дзень яго трохгадовага юбілею.

Выходзячы з таго, што пачаўшаеся другое дзесяцёхгодзьдзе з моманту Кастрычнікавай рэволюцыі павінна ісьці пад сьцягам якаснага паляпшэньня як ужо дасягнутых, гэтак і зноў заваёўваемых коопэрацыяй на гаспадарчым фронце колькасных пабед і дасягненьняў,—катэдра коопэрацыі Белдзяржунівэрсытэту лічыць, што гэтыя якасныя паляпшэньні не могуць быць дасягнуты без падняцьця культурнага ўзроўню як коопэрацыйных працаўнікоў, гэтак і шырокіх мас коопэраванага насельніцтва.

Адным з шляхоў падвышэньня культурнасьці коопэратара зьяўляецца яго спэцыяльны коопэрацыйны друк.

У зьвязку з гэтым катэдра лічыць надзвычайна каштоўным, карысным і жыцьцёва-неабходным існаваньне спэцыяльнага ўсебеларускага коопэрацыйнага часопісу, якім зьяўляецца юбіляр — „Шлях Коопэрацыі“.

Улічваючы бязупыннае ўзрастаньне тыражу і колькасьць падпісчыкаў часопісу, што сьведчыць аб тым правідловым посьпеху, які завербаваў сабе юбіляр сярод коопэрацыйных працаўнікоў БССР,—катэдра коопэрацыі Белдзяржунівэрсытэту жадае юбіляру далейшага посьпеху ў сэнсе праніканьня ў шырокія коопэрацыйныя колы як коопэрацыйных працаўнікоў, гэтак і коопэраваных мас насельніцтва.

Улічваючы характар пачаўшагася другога дзесяцёхгодзьдзя Кастрычніку, як эпохі культурнай рэволюцыі і будаўніцтва соцыялізму ў СССР,—катэдра лічыць сваім доўгам пажадаць юбіляру, каб ён патрапіў на сваіх старонках яшчэ паўней, чым да гэтага часу, здавальняць запытаньні і культурныя патрэбы беларускага коопэратара. У прыватнасьці юбіляру неабходна:

1) больш шырока асьвятляць пытаньні колектывізацыі сялянскай гаспадаркі;

2) удзяліць спэцыяльнае месца пытаньням коопэрацыйнай асьветы і адукацыі (пастаноўцы вывучэньня коопэрацыі ў розных ВУЗ'ах, тэхнікумах, прафшколах, курсах і г. д.);

3) больш месца адводзіць пытаньням практыкі і тэхнікі коопэрацыйнага будаўніцтва і коопэрацыйнай працы;

4) часьцей асьвятляць працу коопэрацыйных організацый іншых рэспублік Саюзу ССР і капіталістычнага Захаду, і

5) увесьці сталы аддзел „Бібліографіі коопэрацыйнай літаратуры“.

З коопэрацыйным прывітаньнем

Загадчык катэдры коопэрацыі факультэту праўгасу БДзУ

доцэнт *С. Л. Пэўзнэр.*

---

## *ІНСТРУКТАРСКАЙ НАРАДЫ СПАЖЫВЕЦКАЙ КООПЭРАЦЫІ ГОМЕЛЬШЧЫНЫ*

Інструктарская нарада Гомельскага саюзу спажывецкіх таварыстваў вітае 3-годзьдзе існаваньня органу беларускай коопэрацыі.

Маладая, яшчэ недастаткова ўзмацніўшаяся, спаж. коопэрацыя Беларусі асабліва мае патрэбу ў сваім органе, які-б асьвятляў асаблівасьці коопэрацыі нашай рэспублікі і даваў кірунак для нашай бягучай практычнай працы

Мы лічылі-б неабходным, каб у часопісе паўней асьвятляліся пытаньні інструктарскай працы.

Жадаем часопісу далейшага разьвіцьця.

З таварыскім прывітаньнем

Старшыня нарады *Высакінскі.*

---

## *900 ПАЙШЧЫКАЎ—РАБОЧЫХ СЕРНІКАВАЙ Ф-КІ „ЧЫРВОНАЯ БЯРЭЗІНА“*

„Коопэрацыйнае Жыцьцё“—„Шлях Коопэрацыі“ всегда был источником, указателем и путеводителем в повседневной работе коопактива в деле строительства кооперации. Журнал „Коопэрацыйнае Жыцьцё“ при своем существовании читался всем коопактивом и широкими массами рабочих, журнал же „Шлях Коопэрацыі“, хотя и не рассчитан на широкие массы, все же интерес к нему не упал. Одно наше пожелание, чтобы редакция в дальнейшем уделяла больше внимания рабочей кооперации, помещая руководящие статьи по вопросу о работе и задачах коопактива.

Пожелаем же нашему руководящему органу—журналу „Шлях Коопэрацыі“ плодотворной работы и выполнения тех деловых предложений, которые будут внесены.

*Коопактив ф-ки „Кр. Березина“.*

---

# א קאאפעראטיווער גערים

### פון קוסטארן-ארטעלן דעם „שליאך קאָאָפעראציע“ צום דריי-יאָריקן יובילײ פון זיין עקזיסטענץ.

דער שנעלער טעמפּ פון קאָאָפערירונג אין די ארטעלן האָט ארויסגעשטעלט א נייעם אקטיוו פון אָנפירער פון די געווערב קאָאָפעראטיוון אף די ערטער. בילדן, פירן, לערנען, אנווייזן, ווי צו אנפירן מיט דער ארטעל, ערקלערן אלע מאָמענטן פון טאָג-טעגלעכער ארבעט פון קוסטארן קאָאָפעראציע און אלגעמיינע פּאָליטישע קאָאָפעראַטיווע פראגן— דאָס אלץ דארף טאָן דער צענטראלער אָרגאַן פון ווייסרוסלענדישער קאָאָפעראַציע— „שליאך קאאפעראציע“.

ביז היינט איז נאָך ווייניק געדרוקט געווען וועגן קוסטארן קאָאָפעראציע, און דאס איז איינער פון די שווערע פונקטן, פאר וואס דער זשורנאל האָס ניט אינגאנצן דערגרייכט דעם ברייטן לעזער.

אפן שוועל פון 4 יאָר פון דער עקזיסטענץ פון „שליאך קאָאָפעראציע“ ווינשן מיר ערפאלג אין דער ארבעט פון פארשפרייטן קאָאָפעראטיווע וויסנשאפט אין די מייכעס פון די האָרעפּאַשניקעס פון ווייסרוסלאנד.

לעבן זאָל דער צוזאמענבונד פון די האָרעפּאשניקעס מיט דעם ארבעטער קלאַס, וועלכע אונטער דער אָנפירונג פון דער קאָמוניסטישער פּאַרטיי גייען צום סאָציאליזם.

שוסטער-ארטעל „רעקאָרד“.
קאָיידאַנאָווער שוך-צונאָטמאכער ארטע „ארבעט“.
מינסקער שניידער ארטעל „ארבעטער“.
מינסקער צונאָטמאכער ארטעל „ארבעט“.
מינסקער ארטעל פון טעכנישע-כעמישער פּראָדוקציע „פּאָרווערטס“.

---

*В. ФАМІЦКАГА*

*Консультант Цэнтрасаюзу*

Редакцию и работников „Шляха Коопэрацыі“ искренне приветствую в день трехлетия существования руководящего органа белорусской кооперации.

Три года журнала показали, какую большую и важную работу он выполняет. Живо откликаясь на все вопросы, занимающие кооперацию и кооперативных работников, журнал сумел, по моему глубокому убеждению, найти своего читателя в широких кругах кооперативного актива Белоруссии.

Мои пожелания в день юбилея сводятся к следующему:

а) больше внимания уделить вопросам практики и техники кооперативного строительства и кооперативной работы;

б) полнее освещать работу кооперации других союзных республик, кроме БССР;

в) еще в нынешнем году удвоить тираж журнала, как равно и удвоить число выходящих книжек журнала (сделав журнал двухнедельным).

Пусть и дальше Ваш журнал неутомимо и энергично освещает шлях коопэрацыі.

*В. Фомицкий.*

---

*ЧЫРВОНААРМЕЙЦА ІССЕРЛІСА*

Находясь на кооперативной работе, с 1 июля 1924 г. по 1 ноября 1927 г., и состоя все время постоянным корреспондентом б. журнала „Коопэрац. Жыцьцё, впоследствии реорганизованного в „Шлях Коопэрацыі“, я в настоящее время, находясь в доблестной рабоче-крестьянской Красной армии и нося великое звание красноармейца и будущего командира запаса, считаю своим долгом поздравить наш центральный белорусский кооперативный журнал с его славным 3-летним юбилеем и с наступающим в скорости днем печати. Наш журнал за небольшой период его существования действительно справился со всеми задачами и трудностями встречаемыми им на пути. Много разных трудностей и ответственных моментов и кампаний выпало на долю нашей кооперации за последние 3 года в связи с общим развитием всего хозяйства нашей страны.

И вот здесь наш журнал постоянно приходил на помощь всем видам и системам нашей кооперации, помогая им выполнять все возложенные обязанности успешно и своевременно.

Особо важным и ценным являлся и является наш журнал для низовой сети, служа для нее как руководящим органом, так и освещающим жизнь коопцентров разных систем БССР и дающим ей возможность обменяться своим опытом в работе в своем журнале.

Более, чем когда-либо, достигает своей цели наш журнал в настоящее время, когда задачи все соответственно усложняются, когда удельный вес

нашей кооперации начинает занимать все большее место во всем социалистическом хозяйстве нашей страны, и когда все проводимые ныне кампании (сбор паевых взносов, кооперирование бедноты, посевная кампания и т. д.) достигают наибольшей важности и ответственности.

Не имея временно возможности повседневно участвовать во всей общественно-кооперативной работе и в нашем журнале, я все-ж захожу часто в Витебский окрпотребсоюз и через журнал „Шлях Коопэрацыі" ознакамливаюсь с жизнью нашей кооперации и содержанием журнала.

Реорганизация б. журнала „Коопэрацыйнае Жыцьцё" в „Шлях Коопэрацыі" вполне и своевременна и целесообразна, так как настоящий журнал содержит больше организационно-руководящего материала и больше инструктажа. Поздравляя наш журнал с его славным 3-летним юбилеем, желаю ему в дальнейшем еще более проникнуть в широкие слои кооперированных масс, помогать кооперации и в дальнейшем проводить все нынешние наиважнейшие кампании, руководить всей кооперативной работой и завоевать себе еще больше коопкоров из кооперативных работников и всего кооперированного населения.

С красноармейским и кооперативным приветом

б. коопкор (ныне военкор) *Иссерлис.*



# ТРЫ ГАДЫ НАШАЙ ПРАЦЫ

А. Фікс

## Да нашага 3-гадовага юбілею.

Прайшоў ўжо і трэці год з таго часу, як выйшаў у сьвет першы нумар адзінага цэнтральнага друкованага органу ўсіх відаў беларускай коопэрацыі, пад назваю „Коопэрацыйнае Жыцьцё“.

Першы нумар часопісу „Коопэрацыйнае Жыцьцё“ выйшаў у красавіку м-цы 1925 г., у самы цяжкі для ўсей коопэрацыі Саюзу час і яшчэ больш цяжкі, у прыватнасьці, для нашай беларускай коопэрацыі.

Пройдзеныя 3 гады працы па абслугоўваньні ўсей нашай значна маладой беларускай коопэрацыі складаюць цэлую эпоху ў разьвіцьці коопэрацыйнага будаўніцтва нашай рэспублікі.

Калі шпарка прасачыць гісторыю разьвіцьця і росту ўсіх коопэрацыйных сыстэм Беларусі за гэтыя 3 гады, іх цяжкае грашова-гаспадарчае і організацыйнае становішча з усімі цяжкасьцямі і цяжкімі ўмовамі працы, а галоўным чынам, да моманту узьнікненьня нашага часопісу, дык можна зусім напэўна сказаць, што гэты пэрыод прадстаўляе сабою самы цяжкі і адказны ў працы нашай коопэрацыі. Восьу гэты цяжкі для ўсіх коопэрацыйных сыстэм пэрыод яшчэ больш ярка выказалася тая крайняя патрэбнасьць у наяўнасьці адзінага для **ўсіх** відаў коопэрацыі БССР друкаванага органу, праз каторы ня толькі адна коопэрацыйная сыстэма, але і ўся Беларуская коопэрацыя цалкам змагла-б агульнымі сіламі сабе дапамагчы, мела-б магчымасьць абменьвацца вопытам свае сложнае працы, аб'яднанымі натугамі выяўляць усе яе хворыя бакі для таго, каб пазбавіцца ад памылак і ўсяго непатрэбнага, няздатнага і шкадлівага для нашага пасьпешнага коопэрацыйнага будаўніцтва. Іменна пагэтаму ўзьнікненьне нашага часопісу і зьяўлялася крайняю неабходнасьцю.

У гэтай адносіне за гэтыя 3 гады і было шмат зроблена. У гэтай цяжкой сложнай працы наш юбіляр быў заўсёды на сваім пасту. Ён ня толькі сваечасова адбіваў на сваіх старонках усе цяжкасьці гэтай працы, але і сумеснымі сіламі дапамагаў знаходзіць шляхі да яе аздараўленьня.

На старонках часопісу „Коопэрацыйнае Жыцьцё“ і бюлетэню „Шлях Коопэрацыі“ заўсёды запраўды, у натуральным відзе бяз усякіх прыкрас адбівалася жыцьцё і дзейнасьць усіх коопэрацыйных сыстэм Беларусі, яе організацыйнае, гаспадарчае і грашовае становішча як па асобных раёнах, гэтак і на ўсёй сыстэме цалкам, асьвятляліся як важнейшыя, гэтак і другарадныя пытаньні коопэрацыйнага будаўніцтва, організацыі і практыкі нашай коопэрацыйнай працы, зварочвалася вельмі сур'ёзная ўвага падрыхтоўцы да ўсіх кампаній асобных коопэрацыйных сыстэм, усяе коопэрацыі цалкам, кампаніям агульнадзяржаўнага значэньня і політычнаму моманту. Даваліся грунтоўныя нарысы аб дзейнасьці і становішчы асобных саюзаў, ЦРК і ўсяе коопэрацыйнае пэрыфэрыі. Зьмяшчаўся больш каштоўны інформацыйны, даведачна-юрыдычны, дырэктыўны і інструкцыйны матар'ял па ўсіх паасобных коопэрацыйных сыстэмах.

Побач з пытаньнямі коопэрацыйнага будаўніцтва зварочалась асаблівая ўвага на пытаньне аб зьніжэньні цэн, рацыяналізацыі і утаненьні працы коопэрацыйнага апарату.

Усякае шуканьне новых, больш удасканаленых, больш рацыянальных мэтодаў у нашай штодзённай практычнай коопэрацыйнай працы і іншыя злобадзённыя пытаньні, узрушаючыя паасобныя коопэрацыйныя сыстэмы і наогул усю коопэрацыю, заўсёды атрымоўвалі належнае асьвятленьне на старонках як часопісу „Коопэрацыйнае Жыцьцё“, гэтак і бюлетэню „Шлях Коопэрацыі“.

Цяжкае грашовае становішча ўсіх бяз выключэньня коопэрацыйных сыстэм БССР у першыя 2 гады не дазволіла яшчэ мець асобна для коопэрацыйнага актыву і асобна для абслугоўваньня коопэраванага насельніцтва спэцыяльны коопэрацыйны друк, і пагэтаму прышлося цэнтральнаму коопэрацыйнаму савету Беларусі у адным і тым жа часопісу „Коопэрацыйнае Жыцьцё“ сумяшчаць і тое і іншае, г. зн. выконваць вельмі складаную задачу па абслугоўваньні праз адзін і той самы часопіс коопэрацыйнага актыву і адначасова шырокай коопэраванай масы.

І калі мы на рубяжы 4-га году існаваньня нашага цэнтральнага друкованага органу ўсяе беларускай коопэрацыі, у дзень яго 3-гадовага юбілею, зададзімо сабе пытаньне, ці запраўды служыць ён вышэйзазначаным мэтам і наколькі ён сябе апраўдаў, як орган усіх коопэрацыйных сыстэм БССР, дык мы павінны адказаць зусім зацьвярджальна; бо аб гэтым даволі чотка сьведчаць прыведзеныя ніжэй цыфравыя даныя: 1) аб тым, на што зварочвалі ўвагу ўсе выпушчаныя да гэтага часу нумары часопісу „Коопэрацыйнае Жыцьцё“, а пазьней бюлетэню „Шлях Коопэрацыі“ і 2) цыфры ўросту колькасьці платных падпісчыкаў і выпісваемых ім паасобнікоў па асобных коопэрацыйных сыстэмах.

У ліку выпушчаных 65 нумароў выданьня з колькасьцю тыражу ў 133755 паас. было зьмешчана 2913 розных артыкулаў, прысьвечаных наступным тэмам:

| НАЗВА ТЭМ | У 1925 калянд. годзе | У 1926 калянд. годзе | У 1927 калян-дарном годзе: У часопіс | У 1927 калян-дарном годзе: У бюлетэн. | У 1928 г. за 3 м-цы | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Агульнакоопэрацыйным | 56 | 56 | 52 | 2 | 13 | 179 |
| 2. Па спажывецкай коопэрацыі | 31 | 73 | 37 | 18 | 12 | 171 |
| 3. „ рабочай коопэрацыі | 83 | 13 | 28 | 5 | 5 | 134 |
| 4. „ сел.-гасп. коопэрацыі | 60 | 75 | 69 | 12 | 21 | 237 |
| 5. „ саматужна-прамысл. коопэрацыі | 13 | 36 | 24 | 7 | 6 | 86 |
| 6. „ жыльлёвай коопэрацыі | 2 | 8 | 23 | 3 | 6 | 42 |
| 7. „ коопэрацыі інвалідаў | 1 | 6 | 6 | 1 | — | 14 |
| 8. Давед. інформ. і інструк. матар'ял і растлум. | 95 | 92 | 78 | 36 | 20 | 321 |
| 9. Корэспондэнцыі з месц | 318 | 325 | 460 | — | — | 1103 |
| 10. Розным | 503 | 62 | 33 | 7 | 21 | 626 |
| **Усяго** | **1162** | **746** | **810** | **91** | **104** | **2913** |

За гэты-ж 3-гадовы пэрыод была прысьвечана асобным спэцыяльным кампаніям наступная колькасьць нумароў:

| Якім кампаніям прысьвечваліся | Колькі нумароў | Якім кампаніям прысьвечваліся | Колькі нумароў |
|---|---|---|---|
| 1. Справ-перавыб. камп па сыстэм. | 5 | 13. Міжнароднаму дню коопэрацыі | 5 |
| 2. Коопэраваньню і паявой кампаніі | 3 | 14. Міжнароднаму жаночаму дню . | 2 |
| 3. Загатоўчай кампаніі . . . . . . | 5 | 15. Гадавіне сьмерці Леніна . . . | 2 |
| 4. Зьездам і сэсіям саветаў . . . | 10 | 16. Кастры нікавай рэволюцыі . . | 3 |
| 5. Сходам упаўнаважаных . . . . | 2 | 17. Гадавіне часопісу . . . . . . | 3 |
| 6. Арганізац. нарадам . . . . . . . | 3 | 18. Дню 1-га Мая . . . . . . . . | 2 |
| 7. Коопбудаўніцтва . . . . . . . . | 2 | 19. Рэялізацыі сялянскага займу . | 2 |
| 8. Коопэрацыйна-асьветнай . . . . | 3 | 20. Барацьбе з хішчэньнямі і растр. | 2 |
| 9. Сел.-гасп. крэдыту . . . . . . . | 2 | 21. Абароне краю і Чырвонай арміі | 2 |
| 10. Пасяўной кампаніі . . . . . . . | 2 | 22. Сьвяту ўраджаю . . . . . . . | 1 |
| 11. Рэжыму эканоміі . . . . . . . | 2 | Усяго . . . . | 66 |
| 12. Зьніжэньню цэн . . . . . . . . | 3 | | |

**Рост падпішчыкаў і колькасьці выпісваемых коопэрацыйнай пэрыфэрыяй платных паасобнікаў па трох пэрыодах.**

| | Падпішчыкаў | | Паасобнікаў | |
|---|---|---|---|---|
| | У абсал. вел. | У проц. | У абсал. вел. | У проц. |
| 1/X 1926 г. . . | 245 | 100 | 525 | 100 |
| 1/X 1927 г. . . | 522 | 217 | 917 | 178 |
| 1/IV 1928 г. . . | 704 | 287 | 1150 | 238 |

Вельмі характэрна прывесьці тут толькі некалькі цыфр, якія сьведчаць аб вялізарным росьце падпішчыкаў і колькасьці самохаць выпісваемых платных паасобнікаў іменна па тых сыстэмах, якія ў адносіне выпіскі коопэрацыйнай літаратуры былі заўсёды на апошнім месцы.

| | Падпішч. на 1 крас. | | Проц. прыросту | Паасобн. на 1 красавіка | | Проц. прыросту |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | | 1927 г. | 1928 г. | |
| С.-гасп. . . . | 56 | 216 | 382 | 64 | 237 | 370 |
| Самат.-прам. . | 26 | 84 | 323 | 26 | 90 | 342 |

Цыфры росту колькасьці самаахвотных платных падпішчыкаў і колькасьці паасобнікаў бюлетэню „Шлях коопэрацыі“, выпісваемых у цяперашні час, у момант юбілею сотнямі коопэрацыйных організацый усіх сыстэм нават самых далёкіх куткоў Беларусі гавораць за тое, што наш юбіляр апраўдвае сваё прызначэньне. Усе большае павялічэньне падпішчыкаў па асобных коопэрацыйных сыстэмах, і галоўным чынам па нізавых організацыях, сьведчыць аб тым, што ён змог у значнай ступені абслугоўваць патрэбы сваіх чытачоў, зрабіцца неабходным падарожнікам кожнага практычнага коопэрацыйнага працаўніка і ўсяго коопактыву і тым самым заваяваць сабе права грамадзянства, права на далейшае самастойнае існаваньне.

Для таго, каб атрымаць падгрунтаваны лічбамі поўны малюнак аб колькасьці платных падпішчыкаў і выпісваемых імі паасобнікаў па сыстэмах, раёнах, ЦРК і нізавой сельскай сеці, прывядзем наступную таблічку:

## Становішча падпіскі на бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“ па асобных коопсыстэмах БССР на красавік 1928 г.

| АКРУГІ и РАЕНЫ | Спажывецкае коопэрацыя | | | | Сел.-гасп. | | Саматуж.-прамысл. | | Іншых | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Саюзы і нізоўкі | | ЦРК | | Саюзы і нізоўкі | | Саюзы і нізоўкі | | | | | |
| | Падп. | Экз. | Падп. | Экз. | Падп. | Экз. | Падп. | Экз. | Падпішчыкаў | Экзэмпляраў | Падпішчыкаў | Экзэмпляраў |
| Гомельская | 114 | 117 | 1 | 1 | 19 | 26 | 2 | 3 | 35 | 37 | 171 | 184 |
| Бабруйская | 45 | 94 | 1 | 1 | 21 | 35 | 22 | 24 | 5 | 5 | 94 | 159 |
| Віцебская | 12 | 22 | 1 | 4 | 43 | 44 | 25 | 26 | 1 | 1 | 82 | 97 |
| Менская | 36 | 54 | 1 | 1 | 23 | 24 | 14 | 16 | 7 | 10 | 81 | 105 |
| Аршанская | 17 | 34 | — | — | 39 | 39 | 4 | 4 | 10 | 10 | 70 | 87 |
| Магілеўская | 32 | 37 | 1 | 1 | 41 | 41 | 2 | 2 | 3 | 3 | 79 | 84 |
| Мазырская | 10 | 25 | — | — | 23 | 23 | 4 | 4 | 7 | 7 | 44 | 59 |
| Слуцкая | 24 | 37 | 1 | 3 | — | — | 3 | 3 | 9 | 9 | 37 | 52 |
| Барысаўскі | 12 | 12 | 1 | 10 | 4 | 5 | 2 | 2 | 17 | 17 | 36 | 46 |
| Полацкая | 3 | 6 | 1 | 1 | 6 | 6 | 8 | 8 | 15 | 15 | 33 | 36 |
| Калінінскі | 8 | 8 | — | — | — | — | — | — | — | — | — | |
| Аддзел падпсікі пошты і атпраўкі за межы | — | — | — | — | — | — | — | — | 3 | 233 | 3 | 3 |
| Асобныя заказы коопцэнтраў | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 100 | — | — |
| **Усяго** | **313** | **446** | **8** | **22** | **219** | **243** | **86** | **92** | **112** | **447** | **738** | **1250** |

Прыведзеная таблічка сьведчыць, па-першае, аб тым, што бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“ выпісваецца многімі сотнямі коопэрацыйных арганізацый, зьверху да нізу (як кіраўнічымі цэнтрамі, так і нізавою коопэрацыйнаю сецьцю), па усіх сыстэмах і раёнах, і, па-другое, што 18,6 проц. усіх платных падпішчыкаў, ня маючых па тых ці іншых прычынах магчымасьці выпісваць бюлетэнь непасрэдна ў рэдакцыі ці праз вучастковага інструктара, зьвяртаюцца ў свае паштовыя аддзяленьні на мясцох з просьбаю аб выпісцы для іх бюлетэня „Шлях Коопэрацыі“. Аб гэтым сьведчыць цыфра—233 паасобнікі, выпісваемыя рознымі падпішчыкамі праз многалікавыя паштовыя аддзяленьні, знаходзячыяся у розных кутках нашай рэспублікі.

Гэтае вельмі радаснае зьявішча дае нам яшчэ больш праў зацьвярджаць, што бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“ стаў запраўды неабходным падарожнікам кожнага коопэрацыйнага працаўніка саюзу, цэрабкоопу, спаж. таварыства, сельска-гаспадарчага, крэдытнага і інш. т-ваў, а таксама саматужна-прамысловых і інш. арцеляй.

Многалікавыя прывітаньні, атрыманыя юбілярам у дзень яго трэцяй гадавіны, яшчэ лішні раз пацьвярджаюць, што, акрамя практычных коопэрацыйных працаўнікоў усіх сыстэм, бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“ зі вялікім інтарэсам чытаюць ў рабочым коопэрацыйным гуртку на фабрыцы, сельскім гуртку ў хаце-чытальні, у чырвонаармейскім клюбе казарме.

Выказваючы сваё шчырае здавальненьне да дню трэцяй гадавіны нашага юбіляру, вітаюць яго коопэрацыйныя цэнтры, нізавыя коопэрацыйныя організацыі, асобныя кіраўнікі коопэрацыі, прадстаўнікі коопэрацыйнае навукі (катэдра коопэрацыі БДзУ) і маса нізавога коопэрацыйнага актыву.

Цэнтр усяе рабочае коопэрацыі Беларусі—Белрабсэкцыя, вітаючы юбіляра, адбіваючы тым самым і погляд як усяе спажывецкай сыстемы Беларусі, гэтак і астатніх сыстэм, піша наступнае: „Коопэрацыйны часопіс „Шлях Коопэрацыі“ з першага моманту свайго ўзьнікненьня паставіў перад сабою задачу падняць культурны ўзровень коопэрацыйнага актыву, і трэба сказаць, што да свайго 3-гадовага юбілею ў гэтай адносіне ён мае вялікія заслугі.

Няма таго коопэрацыйнага кутка, дзе-б ня чытаўся „Шлях Коопэрацыі“. „Шлях Коопэрацыі“ зрабіўся сурёзным кіраўнічым органам коопэрацыйнага актыву, і трэба бясспрэчна прызнаць, што ён значна дапамагае пашырэньню кругазору коопэрацыйнага актыву“.

Пажадаем-жа, каб гэты часопіс стаў ня толькі органам коопэрацыйнага актыву, але і ўсіх коопэраваных мас і ў далейшым ішоў па намечаным шляху, дапамагаючы пад'ёму культурнага ўзроўню коопэрацыйных працаўнікоў і паляпшэньню працы коопэрацыі“.

Далучымся-ж і мы да гэтага прывітаньня і пажадаем нашаму юбіляру далейшых пабед на шляху да соцыялізму.

---

Л. Негінскі

## Юбілейнае ўспаміnаньне

Год таму назад, у красавіку м-цы, прадстаўнікі Гомельшчыны ў першы раз прымалі ўдзел у работах організацыйнай нарады спажывецкай коопэрацыі БССР.

Шмат пытаньняў рэспубліканскага жыцьця спаж. сыстэмы для Гомельскіх „навічкоў“ было незнаёма, і пагэтаму яны на іх ці зусім не рэагавалі, ці рэагавалі слаба.

„Туземцы“ па шэрагу пытаньняў спрачаліся, кідаліся ў бой, ламалі коп'і,—у той час як дэлегаты толькі што „окупіраваных“ акруг праяўлялі лояльнасьць і трымаліся міравога тону.

Завойстраны былі стрэлы і навокал пытаньня аб далейшым выхадзе тагочаснага „Коопэрацыйнага Жыцьця“—папярэдніка цяперашняга „Шляха Коопэрацыі“.

„Мілітарыстычна“ настроеныя віцебчане правялі думку аб неабходнасьці выданьня спэцыяльнага друкаванага органу спажывецкай коопэрацыі.

Нехта з гамельчанаў у душы дзіваваўся, але, як належыць „новічком“ маўчаў („бо старыя знаюць, што робяць“).

Вопыт гадавых зносін з часопісам „Шлях Коопэрацыі“ пераканаў мяне, аднаго з леташніх навічкоў, што гэты часопіс і ў будучым павінен зьяўляцца органам усіх відаў коопэрацыі БССР.

Адбітак на старонках „Шляха Коопэрацыі“ становішча коопэрацыі БССР усіх сыстэм робіць часопіс больш зьмесным і цікавым, пазбаўленым „ведамсьцьвенай“ абмяжаванасьці.

**Я. Трахімаў**

# Па новым коопэрацыйным шляху

Мінае трэці год, як расьце і шырыцца сталы пэрыодычны орган беларускай коопэрацыі.

Памятаю я яшчэ першыя крокі нашага часопісу. Колькі было нарад, размоў, сумненьняў, ці патрэбен на Беларусі свой коопэрацыйны часопіс, ці здолее ён зацікавіць коопэрацыйны актыў, ці дапаможа ён стварыць кадры „цывілізаваных“ коопэратараў, ці зможа ён фінансава вытрымаць сваё існаваньне і г. д. і г. д.

Зараз можна рашуча, з поўнай упэўненасьцю сказаць—„Шлях Коопэрацыі“ апраўдвае сваё прызначэньне.

Ён рэорганізован у мінулым годзе з шырока грамадзкага часопісу „Коопэрацыйнае Жыцьцё“ у больш ведамсьцьвены орган Цэнтральнага Коопэрацыйнага Савету БССР“, набыў больш выразны характар, са зьместам, разьлічаным на абслугоўваньне коопэрацыйных кадраў.

У такім выглядзе ён больш адпавядае і для коопэрацыйных гурткоў.

Тыя гутаркі, якія ўзьнімаліся пры заснаваньні гэтага часопісу, ды і зараз дзе-ня-дзе яшчэ ўзьнімаюцца, аб тым, ці патрэбен такі часопіс, самім жыцьцём ужо праверан. „Шлях Коопэрацыі“ ужо заваяваў свайго чытача. Ён зьяўляецца неабходнаю часткаю культурнага жыцьця кожнага мясцовага коопэратара-актывіста.

Толькі дрэнна яшчэ тое, што часопіс не згуртаваў шчыльна вакол сябе сваіх корэспондэнтаў, не знайшоў яшчэ організацыйных форм іх аб‘яднаньня.

Мала яшчэ часопіс зьвяртае ўвагі на сувязь з краязнаўчымі гурткамі, мала ўплывае на працу коопэрацыйных гурткоў.

Вельмі часта цэлы шэраг пытаньняў узьнімаецца на старонках нашага часопісу ў агульнай тэорэтычнай форме, дубліруючы пытаньні агульна саюзнай коопэрацыйнай думкі. Не разгортваецца, не ўдасканальваецца думка ў дастасаваньні да мясцовых умоў.

Трэба наш часопіс больш шчыльна ўвязаць з краязнаўчымі, з коопэрацыйнымі гурткамі.

Больш увагі вучоту мясцовых умоў. Разам з гэтым час ужо нашаму часопісу перайсьці цалкам на беларускую мову.

Яшчэ адно пажаданьне—трэба больш заахвоціць коопэрацыйны інструктаж да высоўваньня на старонках часопісу практычных меркаваньняў за паляпшэньне працы коопэрацыйных організацый і разгортваць вакол іх абмен думкамі.

Агулам жа „Шлях Коопэрацыі“ каштоўны і патрэбны для ўзмацненьня коопэрацыі БССР часопіс. Пажадаем-жа яму і на далей расьці і шырыцца, будзіць масы да колектыўнага жыцьця, каваць моцны коопэрацыйны апарат.

---

**Фалько**

# Часопіс бліжэй да мас.

Часопіс „Коопэрацыйнае Жыцьцё“, маючы ўхіл больш масавы, меў магчымасьць больш пранікаць у шырокія масы рабочых—ён чытаўся, перадаваўся другому і г. д.

Пры пераходзе-ж на бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі“ інтарэс рабочых мас пачынае паступова падаць, бо гэты часопіс разьлічан на больш „культурнага“ і „кваліфікаванага“ коопэратара. „Шлях Коопэрацыі“, які

зьяўляецца адзіным друкаваных органам усіх відаў коопэрацыі БССР, мала аддае ўвагі справе рабочай коопэрацыі і кіраўніцтву коопактывам усіх сыстэм коопэрацыі.

Маё пажаданьне, каб больш прыблізіць да мас наш бюлетэнь, павялічыўшы тыраж, больш зьвяртаць увагі на зьмяшчэньне кіраўнічых артыкулаў аб працы коопактыву, адкрыць аддзел **абмен вопытам** і аддзел **рацыяналізацыі** нашай коопэрацыі.

Трэба спадзявацца, што „Шлях Коопэрацыі" на 4-м годзе існаваньня з прадстаячымі задачамі справіцца.

---

**П. Анучын**

## Назад да „Коопэрацыйнага Жыцьця"

Беларуская коопэрацыя ўсіх відаў і сыстэм у красавіку адзначае 3-ю гадавіну выданьня свайго друкаванага органу.

Менш года таму назад зачыніўся двухтыднёвы часопіс „Коопэрацыйнае Жыцьцё", а замест яго выпушчаецца месячны бюлетэнь „Шлях Коопэрацыі". „Коопэрацыйнае Жыцьцё" зачынілася як раз у той момант, калі гэты часопіс прыблізіўся да коопэрацыйнай масы і зацікавіў яго актыў.

Калі гаварыць аб недахопах нашага бюлетэню, дык перш за ўсё патрэбна заўважыць яго об'ектыўны бок: слабы кадр сталых коопкораў, а адсюль вельмі „рэдзенькі" аддзел корэспондэнцыі з месц.

Амаль што зусім ня друкуецца старонка пытаньняў і адказаў, неабходная для нізавых працаўнікоў. Часта зьмяшчаюцца артыкулы з апісаньнем працы акруговых саюзаў альбо іх сэкцый з вялізарнаю колькасьцю лічбаў і процантаў.

Бюлетэнь, як гэтакі, бязумоўна, апраўдвае сябе, але ў ім няма таго жывога, часамі маляўнічага слова, якое лепш чытаецца ўсім коопэрацыйным актывам, як гэта было ў „Коопэрацыйным Жыцьці", у яго бытавым аддзеле і наогул у корэспондэнцыі з месц.

Да трэцяй гадавіны нашага друкаванага органу патрэбна адкрыць у бюлетэні дыскусыйны лісток (наогул па пытаньнях коопэрацыйнага будаўніцтва) аб выданьні агульнымі сродкамі і сіламі свайго двухтыднёвага часопісу.

---

# Міжнароднае пралетарскае сьвята

Першае мая—дзень агляду сіл сусьветнай арміі працы і рэволюцыі. Гэтыя сілы заўсёды зьмяняюцца, бо зьмяняюцца суадносіны сіл змагаючыхся клясаў.

У цяперашні час авангардам змагаючагася за сваё вызваленьне міжнароднага пролетарыяту зьяўляюцца Комуністычны Інтэрнацыянал і перадавы атрад апошняга—пролетарыят СССР.

Пад яго ведамам усё больш і больш узрастаючыя рэсурсы вялізарнай краіны, якая будуе соцыялістычную гаспадарку. Нявычарпальная творчая энэргія працоўных мас савецкіх рэспублік, іх посьпехі ў будаўніцтве новага жыцьця напаўняюць бадзёрасьцю і надзеяю рэволюцыйныя пролетарскія атрады тых краёў, дзе першамайскія дэмонстрацыі забаронены, дзе права на протэст супроць гвалтаў буржуазіі рабочыя купляюць цаною надзвычайных мук. Пагэтаму напады сусьветнай буржуазіі на перадавыя атрады рэволюцыйных рабочых і нянавісьць яе да аплоту сусьветнай рэволюцыі—СССР становяцца ўсё больш ярасны́мі па меры таго, як нашыя сілы ўнутры СССР мацнеюць.

У дзень міжнароднага пролетарскага сьвята мы праводзім агляд нашых сіл, нашых дасягненьняў і цяжкасьцяй.

Рабіць агляд нашых сіл унутры СССР—гэта значыць уважліва падлічваць нашы посьпехі і ня менш уважліва прыглядацца да нашых недахопаў, да цяжкай спадчыны, застаўленай нам царскім урадам.

Культурная адсталасьць, алкагалізм, хабарніцтва, безгаспадарчасьць рвачаства, расхлябанасьць у працы—гэтым стары буржуазны лад імсьціць нам і да апошняга часу.

Адзін з цэнтральных лёзунгаў першага мая—гэта змаганьне за новага чалавека, які варты соцыялістычнай эпохі, за новую культуру, якая здольна шпарка пасунуць уперад будаўніцтва соцыялізму.

Для коопэрацыі барацьба за пасілены ўздым культурнага ўзроўню шырокіх мас становіцца асабліва важнаю ў сувязі з вялізарнейшаю задачаю перабудоўлі мільённых дробных і адсталых паасобных сялянскіх гаспадарак у буйныя колектыўна-коопэрацыйныя гаспадаркі і ў сувязі з неабходнасьцю ўцягненьня ў гэтае будаўніцтва шырокіх мас беднаты і сераднякоў вёскі.

Няхай будзе міжнароднае першамайскае сьвята 1928 г. днём максымальнай мобілізацыі актыўнасьці, волі і сьвядомасьці працоўных мас СССР у справе пасьпяховага будаўніцтва нашага новага соцыялістычнага жыцьця. Няхай будзе гэты дзень днём мобілізацыі волі міжнароднага пролетарыяту да рэволюцыйных боек з міжнароднаю буржуазіяй і да канчатковай перамогі сьцягу Кастрычніка ва ўсім сьвеце.

---

Аксючыц

# Задачы сельска-гаспадарчай коопэрацыі ў сувязі з пастановамі XV зьезду УсеКП(б)

XV зьезд усесаюзнай комуністычнай партыі ў сваёй пастанове аб працы на вёсцы па дакладзе тав. Молатава гаворыць наступнае: Пашырыць і ўзмацніць сетку коопэрацыі, маючы на ўвазе ўцягненьне ў коопэрацыю на працягу бліжэйшаго пэрыоду ўсіх бядняцкіх і большасьць серадняцкіх гаспадарак, павялічыўшы фонд коопэраваньня бедняты, і ў другой сваёй пастанове у дырэктывах па складаньні пяцёхгадовага пляну народнае гаспадаркі зьезд гаворыць: .асаблівая ўвага павінна быць удзелена коопэрацыі, перад ёй стаіць задача большага ахопу ўсё большых колаў насельніцтва; коопэрацыя павінна стаць найбольш танным апаратам па прасоўваньні тавараў ад вытворца да спажыўца, і праз організованае ўцягненьне мас у гаспадарчую працу яна павінна садзейнічаць вучоту спажывецкага вопыту насельніцтва і плянаваму здавальненьню гэтага попыту шляхам сваечасовага заказу прамысловасьці тых тавараў вытворчасьці, на якія ёсьць попыт.

У сувязі з гэтымі дырэктывамі і з тэй плянавай працай па разьвіцьці нашае народнае гаспадаркі, якую вядзе наш савецкі ўрад, коопэрацыя наогул, а сельска-гаспадарчая ў яшчэ большай ступені, набывае вельмі вялікае значэньне па плянавым разьвіцьці сельскае гаспадаркі і сувязі яе з прамысловасьцю. Выходзячы з гэтага, з боку ўсіх організацый, як урадавых, так і профэсыянальных, грамадзкіх і інш., павінна быць зьвернута больш увагі на паляпшэньне працы сельска-гаспадарчай коопэрацыі як з організацыйнага, так і матар'яльнага яе становішча, з аднага боку, бо адны коопэрацыйныя працаўнікі з гэтай складанай і адказнай працай ня справяцца. З другога боку, і сам коопэрацыйны апарат павінен яскрава выявіць тую адказнасьць, якая на яго гэтымі пастановамі ўскладзена, і ў сваёй працы больш адчуваць гэту адказнасьць, праяўляць больш уважлівасьці да тэй працы, якую ён у гэтай галіне праводзіць.

Для таго, каб уявіць сабе больш яскрава гэтыя задачы, мы прывядзем некалькі лічбаў аб становішчы ў сучасны момант с.-г. коопэрацыі, і потым папытаемся намеціць у кароткіх рысах тыя мерапрыемствы, якія патрэбна на бліжэйшы час правесьці для далейшага разьвіцьця і паглыбленьня працы с.-г. коопэрацыі. Пры чым сыстэму с.-г. коопэрацыі трэба разглядаць ня толькі, і яб сказаў ня столькі, як тавара-праводзячую сетку, што робяць некаторыя працаўнікі некаторых устаноў, і што зьяўляецца вялікай памылкай, а яе трэба разглядаць больш за ўсё з боку вытворчага, пры гэтым яна зьяўляецца і тавара-праводзячай сеткаю, але ўсё-ж пад пунктам гледжаньня вытворчага; гэта заўсёды пры разглядзе працы с.-г. коопэрацыі трэба мець на ўвазе, і тады будзе зразумела тая складаная задача, якая стаіць перад сыстэмай с.-г. коопэрацыі.

Па справаздачных матарыялах, сыстэма к канцу 1926-27 опэрацыйнага году прадстаўляе наступнае; калі ўзяць рост сеткі ўсяе сыстэмы, дык яна па гадох расла гэтак:

| Гады | Чысло ўсіх коопэратываў | Проц. прыросту к папярэдн. году | З іх: вытвор. аб'ядн. | З іх: проц. прыросту к папяр. году | Удзельная вага вытв. аб'яднан. у сетцы |
|---|---|---|---|---|---|
| На 1-е кастрычніка 1924 году . . . | 849 | 100,0 | 90 | 100,0 | 10,6 |
| " " " 1925 " . . . | 945 | 111,2 | 167 | 185,5 | 17,6 |
| " " " 1926 " . . . | 1013 | 107,2 | 285 | 164,7 | 27,1 |
| " " " 1927 " . . . | 1273 | 125,6 | 582 | 211,6 | 45,7 |

Прыведзеныя лічбы гавораць, што пры параўнаўча невялікім штогодным прыросьце агульнага ліку нізавых аб'яднаньняў, прырост вытворчых коопэратываў ідзе досыць шпаркім тэмпам. Па гадох агульны лік вытворчых аб'яднаньняў с.-г. коопэрацыі, які нас цяпер больш за ўсё цікавіць, ішоў наступным тэмпам, калі к канцу 1924 году лік таварыстваў, якія ўваходзілі ў сыстэму с.-г. коопэрацыі, складаў 90 адзінак, дык к канцу 1925 г. іх ужо было 167, у 1926 г.—285, у 1927 г. —582. Па асобных відах і па акругах мы маем наступныя лічбы:

| Віды аб'яднаньняў | Бабруйская | Менская | Віцебская | Магілеўская | Мазырская | Аршанская | Полацкая | Гомельская | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Малочныя арцелі | 29 | 25 | 20 | 21 | 16 | 15 | 6 | 14 | 156 |
| Пчалаводн. т-вы | 6 | 1 | — | 14 | 3 | 3 | — | 1 | 28 |
| Садова-гародн. | 4 | 1 | 3 | 24 | — | 3 | 1 | 1 | 37 |
| Картоф-цёрачн. | 1 | — | — | — | — | — | — | — | 1 |
| Ільнаводныя | — | — | — | — | — | — | 1 | — | 1 |
| Агнятрывал. буд. | 2 | — | — | 19 | — | 5 | — | 8 | 34 |
| Мэліор. тарпян. | 1 | 1 | 13 | 17 | — | 51 | 4 | 46 | 133 |
| Машынныя | 7 | 8 | 3 | 14 | 4 | 11 | 5 | 31 | 86 |
| Жывёлаводныя | 2 | 4 | 1 | 10 | — | 2 | 3 | 1 | 23 |
| Кантрольныя | 2 | 1 | — | 2 | — | — | 5 | — | 10 |
| Насенаводныя | 6 | 3 | 3 | 7 | 2 | — | 1 | — | 22 |
| Рыбалоўныя | 4 | — | — | — | — | 2 | 7 | — | 13 |
| Кустарн. прамысловыя | — | — | — | — | — | 1 | 5 | 8 | 14 |
| Іншыя | 6 | — | 1 | — | — | 4 | 3 | 10 | 24 |
| **Разам** | **70** | **44** | **44** | **141** | **25** | **97** | **41** | **120** | **582** |

Паказаныя лічбы гавораць аб тым, што вытворчыя віды аб'яднаньняў растуць больш шпаркім тэмпам, чым усе іншыя, што даказвае правільны напрамак організацыйнай працы коопэрацыі, пры чым у гэтыя лічбы не ўваходзяць колгасы, якія таксама маюць на гэта числo 416 адзінак. Калі мы зьвернем увагу на лік аб'яднаньняў па кожнай акрузе, дык як па агульным ліку аб'яднаньняў, так і па асноўных іх відах (малочныя арцелі, машынныя таварыствы, меліорацыйныя, жывёлаводныя і інш.) на першым месцы стаяць акругі Магілеўская, Гомельская, Аршанская і Бабруйская. Ва ўсіх астатніх акругах сетка вытворчых коопэратываў, у параўнаньні з указанымі, разьвіта слаба; асабліва гэта трэба аднесьці да Віцебскай і Менскай акруг, экономіка якіх пазваляла працу па вытворчым коопэраваньні насельніцтва павесьці больш шырока. Калі мы далей паглядзім рост коопэраванага насельніцтва, тут мы маем наступную картыну:

| Гады | Усяго коопэравана сялянск. гаспадарак | Проц. к агульн. числу гасп. БССР | З іх: Коопэравана праз с.-г. і кр. т-вы | Проц. росту к папярэдн. году | Проц. коопэрав. к агульнаму ліку гасп. | Коопэравана праз вытв. аб'яднаньні | Рост у проц. | Проц. коопэрав. к агульнаму ліку гаспадарак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| На 1-е кастрычніка 1924 г. | 48074 | 6,04 | 38128 | 100,0 | 4,8 | 9946 | 100,0 | 1,24 |
| " " 1925 г. | 122230 | 15,34 | 108653 | 184,9 | 13,7 | 13577 | 136,5 | 1,64 |
| " " 1926 г. | 201721 | 25,32 | 183283 | 168,6 | 23,0 | 18438 | 135,8 | 2,32 |
| " " 1927 г. | 285696 | 35,87 | 252342 | 137,7 | 31,7 | 33354 | 182,3 | 4,17 |



Прыведзеныя цыфры паказваюць, што галоўная маса коопэраваных сялянскіх гаспадарак выпадае на с.-г. кр. сетку і ў вытворчых відах коопэратываў у агульнай масе гаспадарак займае нязначнае месца. Праўда, процэс вытворчага коопэраваньня з кожным годам усё ўзрастае, але гэты рост, у параўнаньні з крэдытнай сеткай, зьяўляецца нязначным. У мінулым 1927 г. яно дало больш прыметны вынік, які, аднак, адносіцца не да ўсіх відаў вытворчых аб'яднаньняў, а галоўным чынам, да малочнай коопэрацыі, якая мела ў апошні год досыць шпаркі рост; так, на 1 кастрычніка—27 г. з агульнага ліку пайшчыкаў 33.354 коопэраваных вытворчых коопэратываў на долю малочных арцеляў прыходзіцца 11.331 гаспадарка, або 34 проц., але наогул вытворчымі відамі коопэрацыі мала коопэравана сялянскіх гаспадарак; і склад самых таварыстваў яшчэ надзвычайна мелкі; сярэдні лік пайшчыкаў на 1 аб'яднаньне выказваецца у малочнай арцелі—73 гасп., у машынным таварыстве—14, жывёлаводным—28, насенаводным—47, мэліорацыйным —63, пчалаводным—42, і г. д. Гэта гаворыць аб тым, што вытворчыя коопэратывы пакуль што ня носяць масавага характару, і што праца па вытворчым коопэраваньні да гэтага часу не зьяўлялася ў нас галоўнай, а больш зварочвалася ўвагі на сетку с.-г. крэдытных. У выніку таго, што вытворчымі аб'яднаньнямі коопэравна мала сялянскіх гаспадарак, і соцыяльны склад іх пайшчыкаў зьяўляецца горшым, чым у крэдытных, калі ў с.-г. крэдытных таварыствах, па тых статыстычных даных, якія мы маем, процант беднаты складае больш 40, то ў спэцыяльных відах аб'яднаньняў ён складае ў сярэднім ня больш 20, гэта гаворыць аб тым, што мы да гэтага часу не зварочвалі тэй увагі на коопэраваньне сельскай гаспадаркі ў вытворчыя віды коопэрацыі, якую трэба на гэта зьвярнуць, а лік самых коопэрацыйных адзінак гаворыць аб тым, што сельска-гаспадарчае насельніцтва зацікаўлена ня менш у вытворчых відах коопэрацыі, чым у сельска-гаспадарча-крэдытных.

Да гэтага часу яшчэ многа коопэрацыйных адзінак не ўваходзяць у члены сыстэмы с.-г. коопэрацыі і, такім чынам, лічацца так званымі „дзікімі". Гэта тлумачыцца тым, што цэлы шэраг коопэрацыйных аб'яднаньняў вытворчай коопэрацыі, як, напрыклад, мэліорацыйныя таварыствы, хоць і зьяўляюцца вельмі патрэбнымі з боку гаспадарчага падняцьця сельскай гаспадаркі, але па сваёй гаспадарчай дзейнасьці яны вельмі мала зьвязаны з сыстэмай коопэрацыі, інструктаж жа для іх абслугоўваньня патрэбен вялікі, а адгэтуль вывад, што саюзы, акрамя страт на інструктарскі апарат, ад іх нічога ня маюць і іх уцягненьнем у сетку не зацікаўлены, і трэба сказаць, што яны пагэтаму працуюць вельмі дрэнна, і патрэбна ўсе тыя коопэратывы, у тым ліку і мэліорацыйныя таварыствы, якія зьяўляюцца гаспадарча-жыцьцёвымі, саюзам уцягнуць у сыстэму і ўзяць пад сваё абслугоўваньне, а дзяржава павінна памагчы сродкамі на ўтрыманьне інструктарскага апарату для абслугоўваньня гэтых відаў аб'яднаньняў. Многа з іх, асабліва мэліорацыйныя таварыствы, працуюць дрэнна альбо і зусім да працы не прыступілі, а значацца толькі на паперы, гэтакія коопэратывы трэба зусім ліквідаваць, бо яны ўтвораны бяз усякай экономічнай падставы і зьяўляюцца непатрэбнымі, ды пры тым яшчэ атрымліваюць крэдыт, гэты крэдыт неправідлова скарыстоўваюць, і ёсьць небясьпека нават у яго звароце.

Калі мы цяпер зьвернемся да гаспадарчай дзейнасьці паасобных відаў первічнай коопэрацыі, тут мы маем наступныя лічбы: сельска-гаспадарчая крэдытная сетка, якая зьяўляецца самай экономічна крэпкай і вядзе самую большую працу ў сыстэме с-г коопэрацыі, галоўную яе працу—крэдыт, снабжэньне і збыт, то абароты яе ў 1926-27 г. параўнальна з 1925-26 г. выглядаюць так: калі абарот па крэдыце, альбо,

вярнее, сума выдадзеных пазык у 1925-26 г. складаў—5.948.000 руб., то ў 1926-27 г. гэта сума павялічылася да 10.946.000 руб., снабжэнчаскія опэрацыі—ў 1925-26 г. складалі—4.961.000 руб., а ў 1926-27 г.—7.432.000 р., збытавыя опэрацыі—у 1925-26 г. складалі суму—3.247.000 р., а ў 1926-27 г.—5.043.000 руб., увесь зварот у 1925-26 г. складаў—14.157.000 руб., а ў 1926-27 г.—22.723.000 руб.

З прыведзеных даных відаць, што аб'ём опэрацый за 1926-27 опэрацыйны год павялічыўся супроць опэрацый 1925-26 г. на 61 проц.

Наступны від коопэрацыі па сваёй гаспадарчай моцнасьці—гэта малочныя арцелі; уся сетка малочных арцеляў, у ліку 156 адзінак, у пачатку бягучага году мела 177 заводаў па пераапрацоўцы малочнай продукцыі. Даныя-ж, характарызуючыя работу, маюцца толькі па 18 арцелях і па належачых ім 92 заводах. Па ўказаных арцелях пасгупіла за год малака 8.623.000 кгр., на суму 724.000 р.; з гэтай колькасьці прададзена цэльным малаком 2.319.000 кгр., на суму 258.000 р., і пераапрацована на масла і сыр 6.303.000 кгр., на суму 465.000 руб. Па ўдзельнай вазе ў агульным звароце малака першае месца займае Менская акруга, потым Віцебская, далей Магілеўская і Гомельская; па нагрузцы-ж на адну арцель на першым месцы стаяць Віцебская і Менская акругі і потым Мазырская і Гомельская. Не гаворачы ўжо аб тым, што і ў гэтых саюзах нагрузка малаком арцеляў недастатковая для нормальной іх работы, і яна надзвычайна нізкая ў саюзах Бабруйскім, Аршанскім і Полацкім, рэалізацыя малака ў цэльным відзе складае 27 проц., астатняе пушчана у пераапрацоўку; найбольш шырока разгорнута праца па цэльным малаку ў вакругах Менскай і Гомельскай, некалькі слабей у Віцебскай і Бабруйскай, і амаль што зусім адсутнічае у Полацкай і Мазырскай.

Надта ненормальнае зьявішча, наглядаецца ў рабоце арцеляў Віцебскай акругі, дзе з 2.943 коопэраваных сялянскіх гаспадарак здавалі арцелям малако толькі 1.504 гаспадаркі, або 51 проц., і гэта пры тэй умове, што ў складзе коопэраваных гаспадарак мелася бескароўных усяго 26 двароў. Пераапрацоўка малака вядзецца на заводах самага прымітыўнага тыпу, недастаткова абсталяваных і прыстасаваных да працы, і толькі ў 18 арцелях па БССР маюцца заводы больш буйнага і ўдасканаленага характару; сярэдняя каштоўнасьць абсталяваньня аднаго заводу дасягае 1.200—1.300 руб., сярэдняя каштоўнасьць літра малака па усіх акругах роўна 8,3 кап.; разрахунак за малако арцелям на 30 проц. учыняецца па якасьці малака.

Як агульнае зьявішча, па ўсіх акругах адчуваецца недахват кваліфікаваных масларобаў і сыравараў, а таксама адсутнічае ў насельніцтва неабходны вопыт у даглядзе за малаком і ў прадстаўленьні яго арцелям у належным відзе. Дзякуючы гэтаму якасьць пераапрацоўваемых продуктаў, асабліва сыру, яшчэ нізкая. Лепшая продукцыя ў тых акругах, дзе малочная вытворчасьць пачала разьвівацца ў апошнія часы (Аршанская і Менская акругі), з старых акруг па якасьці продуктаў (сыроў) на першым месцы стаіць Магілеўскі саюз; па асобных акругах якасьць сырнай продукцыі характарызуецца наступнымі паказацелямі: Бабруйская I с.—60 проц., II с.—40 проц., Віцебская 1 с.—60 проц., II с.—40 проц., Менская—I с.—80 проц., II с.—20 проц., Магілеўская—I с.—75 проц., II с.—25 проц., Аршанская—I с.—80 проц., II с.—20 проц. і быўшая Слуцкая—I с.—20 проц., II с.—50 проц., III с.—30 проц. Для таго, каб палепшыць якасьць працаўнікоў, а разам з гэтым і продукцыі, Белсельсаюзам былі праведзены курсы на 184 асобы; курсы праводзіліся на сродкі Белсельсаюзу, акрсельсаюзаў, Наркомзему, Белсельбанку, і каштоўнасьць іх выразілася ў круглай суме 4.800 руб.

Інструктароў па абслугоўваньні малочнай сеткі недастаткова: к пачатку 1926-27 г. іх было 8 чал.., к канцу—9, пры наяўнасьці 156 арцеляў, ня лічачы заводаў пры колгасах і с.-г. крэдытных таварыствах. Агрыкультурныя мерапрыемствы, як, напрыклад, уцяпленьне хлявоў, паляпшэньне жывёлы, рацыянальнае кармленьне і інш., як масавае зьявішча, пакуль што не ўкараніліся ў практыку работы арцеляў, хоць у асобных выпадках маюцца і ў гэтай адносіне ў некаторых аб'яднаньнях значныя дасягненьні. Так, у Бабруйскай акрузе, у Росаўскай арцелі ўцеплена хлявоў у пайшчыкаў на 30 проц. коопэраваных гаспадарак, зроблена кармушак 13 проц., палепшана кармленьне 17 проц., пашырана пасяўная плошча бульбы на 30 проц.

Ня гледзячы на паказаныя недахопы ў рабоце, апошняя дала ўсё-ж такі значныя экономічныя эфэкты; па усіх акругах прыходзіцца сярэдняга валавога даходу на адну карову ад продажы лішкаў малака 35 р. 60 к. у год, якая сума зьяўляецца ў гэтай адносіне дастаткова паказальнай. Машынныя таварыствы ў нас у БССР зьяўляюцца яшчэ вельмі маладымі організацымі; больш шырока організоўвацца яны сталі толькі з мінулага году і працуюць яшчэ пакуль што слаба склад; машын, знаходзячыхся ў іх, паказвае, што яны карыстаюцца пераважна прасьцейшымі машынамі. Больш складаныя машыны ў іх яшчэ ня ўжываюцца, нават прасьцейшымі машынамі таварыствы забясьпечаны недастаткова; такія, напрыклад, усюды распаўсюджаныя машыны, як малатарні, веялкі і спружынныя бароны, ёсьць не ва ўсіх таварыствах; сярэдняя каштоўнасьць набора машын выражаецца ў суме 407 р. на таварыства. Паміж тым каштоўнасьць машын для больш ці менш поўнага абслугоўваньня патрэб сельскай гаспадаркі на одно таварыства павінна быць, прыкладна, у 1500 руб.

Нагрузка машын работай надзвычайна слабая; так, па 11 машынных таварыствах Магілеўскае акругі мы маем наступны малюнак: 6 малатарак працавалі ўсяго 90 дзён, гэта значыць, на 1 малатарку прыходзіцца 15 рабочых дзён, 4 веялкі прапрацавалі 42 дні, 4 саламарэзкі працавалі 27 дзён. Па Віцебскай акрузе на 1 малатарку прыходзіцца 7 рабочых дзён, а на веялку—14. У Бабруйскай акрузе на 1 малатарку прыходзіцца 13 рабочых дзён, на 1 веялку—15. Карыстаньне машынамі амаль што выключна індывідуальнае, абагульваньне і заворваньне пасеваў або ўборкі ўраджаю ня мела месца. Былі выпадкі, што такія машыны, як саламарэзкі, плугі і спружынныя бароны т-вамі выдаваліся асобным пайшчыкам у ўласнасьць у парадку крэдытаваньня. Па справаздачах Наркомзему на 1 кастрычніка 1927 г. у БССР налічвалася 830 мэліорацыйных таварыстваў. З указанага ліку таварыстваў састаяць членамі саюзу толькі 133 аб'яднаньні, ва ўсіх іх знаходзіцца 25.270 гэктараў плошчы, падлягаючай мэліорацыі; ёй коопэравана 8.435 сялянскіх двароў, што складае 15 проц. ад плошчы і 16 проц. ад ліку членаў усёй мэліорацыйнай сеткі рэспублікі. Работа мэліорацыйных таварыстваў у асноўным звадзілася да асушкі экстэнсыўнай і інтэнсыўнай, і наступнай закульцівіроўцы. Пры экстэнсыўнай асушцы прымянялася павярхоўнае паляпшэньне, а пры інтэнсыўнай—каранное. За мінулы год з 133 таварыстваў, якія ўваходзяць у сыстэму с.-г. коопэрацыі, ёсьць даныя аб працы па 114 таварыствах у двух акругах—Гомельскай і Аршанскай. Агульная каштоўнасьць зробленай імі працы складае 155.084 руб. па Гомельскай акрузе і 3.673 руб. па Аршанскай, а ўсяго 158.757 руб., пры чым у гэту суму ўваходзіць асабісты труд і затрачаныя сродкі ў разьмеры 135.369 руб.

Цыфры паказваюць, што Гомельская акруга па разьмерах зробленых мерапрыемстваў стаіць далёка вышэй, чым Аршанская. Гэта шырокае разьвіцьцё работы мэліорацыйных таварыстваў у Гомельскай акрузе тлумачыцца некаторай налажанасьцю работы ў сыстэме с.-г.

коопэрацыі. Адсутнасьць організацыйнага абслугоўваньня па лініі с.-г. коопэрацыі ў іншых акругах затрымлівае тэмп разьвіцьця мэліорацыйных таварыстваў, асабліва работу па культуртэхніцы. Апроч балотнага лугавога інвэнтару пракатных пунктаў Мэліозему, асобныя таварыствы набылі неабходны ім інвэнтар праз Цэнтраземсклад за свой кошт. Так, з вышэй указаных 114 таварыстваў, па справаздачных даных, маюць наступны ўласны інвэнтар: плугоў—9, барон спружынных—2, дзіскавых – 27, лугавых барон 11 і адзін каток. Снабжэньне насеньнем і штучным угнаеньнем мэліорацыйных таварыстваў утваралася Цэнтраземскладам, а ў Гомельскай акрузе і Палессельсаюзам. Мэліорыруемая плошча скарыстоўваецца таварыствамі ў большасьці індывідуальна. Па справаздачных даных, садова-агародныя таварыствы маюць у сваім карыстаньні ўласнай садовай плошчы 875 дзесяцін і арандаванай 327 дзесяцін, усяго 1202 дзясяціны, агароднай зямлі ўласнай 163 дзес., арандаванай 23 дзес., усяго 186 дзес. На 1 таварыства прыходзіцца саду 44,5 дзес. і агароду 6,8 дзес. Ува ўсіх садох налічваецца 113.040 пладаносных дрэў, што дае 177 дрэў на дзесяціну. Пры таварыствах ёсьць пладовыя пітомнікі, з агульнай плошчай 17 дзес. Пітомнікі дробныя і ня носяць прамысловага характару. За 1926-27 год атрымана ўраджаю ад садоў 652.163 пуд. і агародаў—33.570 пуд.; рэалізавана продукцыі садоў праз саюз усяго 8,2 проц., астатнія—праз дзяржорганы і прыватных асоб. Гэта гаворыць аб тым, што праца гэтых таварыстваў да гэтага часу зусім ня ўвязана з саюзамі, што саюзы амаль што зусім не займаюцца і яшчэ да гэтага часу збытам садова-агароднай продукцыі.

Даныя па пчалярных таварыствах прадстаўлены Магілеўскім саюзам па 12 аб'яднаньнях, Бабруйскім і Менскім—па 2, усяго—па 14. Таварыствы маюць у коопэрацыйным карыстаньні 8.514 вульлёў, што дае на адно аб'яднаньне 608 вульлёў. Пры двух таварыствах ёсьць па аднэй паказальнай пасецы. За год таварыствамі загатоўлена мёду на на суму 46.230 руб. і воску на 20.000 руб., што дае на адно таварыства ў сярэднім 4.700 руб. Адно з таварыстваў Магілеўскай акругі займаецца вырабам вульлёў і снабжае імі сваіх членаў, а таксама і ня-членаў; за год імвыраблена 118 вульлёў. Таварыствы Магілеўскай акругі ў сваёй гаспадарчай дзейнасьці зьвязаны пераважна з саюзам, а ў астатніх акругах работа з саюзамі не вядзецца. Як агульнае зьявішча, існуючыя і цяпер пчалярныя таварыствы не ажыцьяўляюць яшчэ поўнасьцю тых задач, якія стаяць перад імі ў сэнсе ўтварэньня арцельных пасек, барацьбы з заразнымі хваробамі пчол, організацыі падкормачных фондаў і інш. Работа па пераводзе пчол з калодных вульлёў на рамачныя яшчэ дастаткова не разгорнута, і калодныя вульлі яшчэ займаюць значнае месца ў агульным ліку коопэраваных вульлёў. У некаторых акругах пчалярныя таварыствы організаваліся і працуюць з вялікім радыусам абслугоўваньня, што не давала ім магчымасьці мець належны нагляд за работаю сваіх членаў і ў належнай меры іх абслугоўваць.

(Працяг будзе).

Марьясин

# Устройство 9 местечек

В начале мая с. г. будет уже приступлено к устройству 9 местечек (по 1 местечку на каждый округ), согласно своевременному постановлению Совнаркома Белоруссии. Устройству подлежат следующие местечки: 1) Бешенковичи (Вит. окр.), с числом семей 690; 2) Глуск (Бобр. окр.) с числом семей 1082; 3) Краснополье (Мог. окр.), с числом семей 397; 4) Копаткевичи (Мозырского окр.), с числом семей 467; 5) Копыль (Слуцкого окр.), с числом семей 735; 6) Смиловичи (Минского окр.), с числом семей 657, 7) Освея (Полоцкого окр.), с числом семей 373; 8) Уваровичи (Гомельск. окр.), с числом семей 507; 9) Черея (Мог. окр.), с числом семей 497.

Всего, таким образом, мы имеем в этих 9 местечках 5405 семей, при чем устройству из них подлежат 50-60 проц.

Разумеется, устраивая такое количество, остальное, естественно, соприкасаясь с обновленной жизнью местечек, будет втянуто в общую жизнь, косвенно во все поры новых видов и форм деятельности, и, таким образом, можно с уверенностью сказать, что местечковое население поголовно оживет, и по прошествии срока устройства (приблизительно 2 года на все процессы) местечко примет иной вид, вид и содержание сытости и культуры.

Из указанных 5405 семей кустарными ремеслами будет охвачено, т. е. организовано в артели с плановым снабжением и сбытом, 667 семей, т. е. свыше 12 проц. к общему количеству.

Всего артелей будет организовано 41, из коих по 9 будут сапожные и швейно-портняжные (из расчета по одной артели на каждое местечко), 8 металлообрабатывающих, т. е. вырабатывающих предметы, главным образом, для крестьянского хозяйства, 4 деревообрабатывающих, по 3 пекарных и войлочных и по 1 артели следующих профессий: стружечная, льноткацкая, гончарная, чулочно-трикотажная и овчинно-шубная.

Главным образом, выработка артелей пойдет на удовлетворение нужд местного и окружного населения, а остальное будет сбываться окрсоюзами на других рынках как в Белоруссии, так и вне ее.

Средства, отпускаемые на кооперирование кустарей, будут из разных фондов.

Организационные силы будут найдены на месте. Понятно, что окружные союзы, как и БКПС всячески будут способствовать и помогать скорейшему преобразованию лика местечек в касающейся их (союзов) части.

Надо еще указать на то, что часть семей данных местечек, правда незначительная и не всюду, включена в план переселения.

Важно, чтобы само население сознало, проявило инициативу в своем устроении, необходимо выявить свои внутренние средства и рессурсы для облегчения и ускорения процесса устройства.

Не подлежит сомнению, что чем лучше мы проведем план и работу устройства намеченных местечек, тем легче нам удастся подойти к устройству остальных местечек Белоруссии, каковой вопрос не за горами.

Усилиями партии и власти местечко Белоруссии преобразуется и примет тот вид, который надлежит ему иметь при советской власти.

В заключение пару слов об организационно-подготовительной стороне всего плана. В то время, как Госплан тщательно прорабатывал каждую мелочь этого плана, мы, заинтересованные стороны, не выказывали постоянно должной гибкости, продуманности, да и в темпе порой были слабоваты.

Это надо учесть при дальнейших шагах данной работы. Местечко ждет и промедление недопустимо.

І. Ф—н

# Вынікі працы VII сэсіі савету Белкоопсаюзу

Гэтымі днямі скончыла сваю працу VII сэсія савету спажывецкай коопэрацыі Беларусі. У парадку дня стаялі 3 асноўных пытаньні: 1) вынікі загатоўчай кампаніі за 2-е паўгодзьдзе, 2) вынікі за тое-ж паўгодзьдзе паявой кампаніі і 3) грашовае становішча спажывецкай сыстэмы Беларусі.

Належыць адзначыць, што як загатоўчая, гэтак і паявая кампаніі па сутнасьці справы прадстаўляюць сабою ня дзьве розных кампаніі, а адну адзіную кампанію, бо, па-першае, абедзьве яны былі зьвязаны ў аднолькавай ступені агульнымі задачамі народна-гаспадарчай кон'юнктуры, па-другое, абедзьве гэтыя кампаніі выконвалі аднчасова адну і тую-ж задачу—вытрымаць новы экзамін на грамадзка-гаспадарчую сьпеласьць спажывецкай коопэрацыі. Асноўныя моманты, адзначаныя сэсіяй у адносінах хлеба-загатоўчай кампаніі, зводзяцца да наступнага.

З пачатку бягучага гаспадарчага году быў узят курс на зьніжэньне ролі спажывецкай коопэрацыі ў загатоўчых опэрацыях. Гэта прывяло да таго, што спажывецкая коопэрацыя павінна была ўзяць цьвёрдую лінію на згортваньне свайго загатоўчага апарату. Такім чынам, к пачатку другога кварталу, калі дырэктыўнымі органамі была паднята кампанія па ўзмацненьні хлебазагатовак у краі, спажывецкая коопэрацыя зьявілася ў значнай меры разброенай, як асноўны загатаўніцель. І калі дырэктыўныя органы ў сувязі з крызысам хлебазагатовак паставілі задачу зрабіць па ўсіх напрамках экономічны націск на тую частку заможнага сялянства, якая імкнулася затрыманьнем хлеба дэзорганізаваць наш рынак, спажывецкая коопэрацыя была зноў прызвана рэгулюючымі органамі да інтэнсыўнай працы па загатоўках. Цэлы шэраг абмяжоўваючых мер былі зьняты, і спажывецкая коопэрацыя павінна была ўжо, так сказаць, на хаду кампаніі зноў будаваць і ўзмацняць свой загатоўчы апарат. Зразумела, што гэта не магло не адбіцца на загатоўчых магчымасьцях спажывецкай сыстэмы.

Ня гледзячы на гэта, спажывецкая коопэрацыя, як паказаў вопыт другога кварталу, зьявілася здольнай заняць сур'ёзную ролю ва ўсёй загатоўчай кампаніі Беларусі. Калі за першы квартал разьмеры загатовак спажывецкай коопэрацыі выявіліся ў 1 677.944 руб., то ў другім квартале яны дасягнулі 2.930.823 руб.

Усё-ж сэсія прызнала гэтыя дасягненьні ў галіне загатовак недастатковымі і намеціла цэлы шэраг практычных мер па ўзмацненьні загатоўчай працы. У прыватнасьці, прызнана необходным асабліва ўзмацніць загатоўкі вывазных відаў сыравіны і пашырыць асортымэнт загатовак па другарадным вывазе. У сувязі з тым, што значная частка нізавой сеткі была прыцягнута ў першы раз да загатоўчых опэрацый, і выявілася адсутнасьць самых элемэнтарных ведаў і навыкаў у загатоўчай справе, сэсія даручыла БКС наладзіць сыстэматычны інструктаж па загатоўках. З тэю-ж мэтаю для падняцьця кваліфікацыі загатаўніцельных працаўнікоў парашылі арганізаваць улетку спэцыяльныя курсы перападрыхтоўкі.

Сэсія прызнала неабходным, каб плян загатовак Наркомгандлю зацьвярджаўся для ўсяе коопэрацыйнай сыстэмы і быў раскладзен паміж спажывецкімі саюзамі коопэрацыйнымі цэнтрамі з тым, каб на мясцох гэты плян не зьмяняўся мясцовымі інспэктарамі гандлю.

Апіраючыся на сваю шырока раскінутую сетку спажывецкіх таварыстваў і крам, на крэпкую сувязь з коопэраваным насельніцтвам, узмацняючы ўнутрыкоопэрацыйную дысцыпліну, організаванасьць свайго загатоўчага апарату і бесперабойную яго працу, спажывецкая коопэрацыя павінна і ў далейшым прадаўжаць з непаслабляючайся энэргіяй і настойлівасьцю сваю загатоўчую працу і поўнасьцю выконваць ускладзеныя на яе задачы.

Найбольш поўна і ўсебакова сэсія застанавілася таксама на выніках опыту паявой кампаніі. Неабходнасьць дабіцца рашаючага пералому ў справе прытоку паявых капіталаў дыктавалася наступным:

1) значнае памяншэньне тэмпу прыросту ўласных сродкаў у нізавой сельскай сеці (на 1-е кастрычніка 1927 г. тэмп прытоку ўласных сродкаў скараціўся ў 3½ разы супроць 1 кастрычніка 1926 г.), пры ўсё больш растучым коопэрацыйным таваразвароце, пры пэрспэктыве скарачэньня дзяржаўных крэдытаў, пагражала сур'ёзным крызысам для спажывецкай сыстэмы;

2) вельмі слабая адносная вага паявых капіталаў у балянсе нізавой сельскай сеці, у прыватнасьці вельмі нізкі ўзровень сярэдня-аплочанага паю на 1 кастрычніка 1927 г. (2 руб. 73 кап.), а таксама відавочна недастатковы тэмп паянамнажэньня за 1-шы квартал бягучага 1927-28 г., што не магло забясьпечыць пасьпяховага выкананьня гадавых контрольных лічбаў;

3) нездавальняючыя пэрспэктывы ў бягучым гаспадарчым годзе ў адносіне паянамнажэньня падвойваліся яшчэ тым, што папярэдні 1926-27 гасп. год сельская сецьзакончыла з недаборам паявых узносаў на 61,1 проц., а гадавы плян па сярэдня-аплочанаму паю ня выканан быў на 68,6 проц.

Такое становішча ў справе мобілізацыі паявых капіталаў, пры ўмове памяншэньня тэмпу прыросту ўласных сродкаў у сельскай сеці і неабходнасьці (дзякуючы скарачэньню крэдытаў) адшукаць уласныя крыніцы шпаркага пасіленьня фінансаваньня коопэрацыйнага таваразвароту, павінны была прывесьці да прыняцьця сур'ёзных мер дзеля таго, каб дабіцца рэзкага пералому ў справе ўсіленьня паянамнажэньня.

У выніку прынятых мер паявая кампанія прывяла да перавышэньня гадавых контрольных лічбаў: за 1-е паўгодзьдзе сабрана паявых капіталаў 111,15 проц. гадавога заданьня, коопэравана 110,1 проц. гадавога заданьня, сярэдня-аплочаны пай дасягнуў 110,2 проц. гадавога заданьня.

Аднак, робячы падрахунак паявой кампаніі, сэсія адзначыла, што дасягнутыя посьпехі зьяўляюцца толькі першымі крокамі да таго, каб паявыя капіталы сталі асноўнаю крыніцаю фінансаваньня коопэрацыйнага таваразвароту. Уся праца па мобілізацыі паявых капіталаў ня можа і не павінна абмяжоўвацца часоваю ўдарнаю кампаніяй, а павінна цьвёрда і сыстэматычна праводзіцца, як мера, дапамагаючая ўтварэньню сталай крыніцы паянамнажэньня ў нізовай сельскай сеці.

У прынятай рэзолюцыі аб выніках паявой кампаніі сэсія асабліва падкрэсьліла, што рашаючую ролю ў справе дасягнутых вынікаў адыграла тое, што паявая кампанія была справаю ня толькі органаў спажывецкай коопэрацыі, але стала ў асяродку вагі ўсяе савецкай, партыйнай і коопэрацыйнай грамадзкасьці. Разам з гэтым мэтод простага экономічнага ўплыву на пайшчыка зьяўляецца адным з асноўных стымулаў прытоку паёў. Такія меры матар'яльнага ўплыву на пайшчыка, як пераважнае забесьпячэньне дэфіцытнымі таварамі поўнапайных членаў і тых, хто ў тэрмін выконвае свае паявыя абавязкі, адказ ад ранейшай практыкі доўгіх растэрміновак па паёх, павінны і ў далейшым ужывацца ў якасьці найбольш рэальнага сродку барацьбы з паявой завінавачанасьцю. Зусім зразумела, што гэтыя меры экономічнага ўплыву павінны праводзіцца пры цьвёрдым захоўваньні клясавай політыкі ў вёсцы, г. зн. пры строгім пільнаваньні інтарэсаў сялянскай беднаты і батрацтва і захаваньні ўстаноўленых для гэтых груп ільгот.

Намеціўшы ў сувязі з вынікамі паявой кампаніі цэлы шэраг організацыйных задач, сэсія таксама зьвярнула ўвагу на пытаньне аб ролі коопэрацыйнага актыву ў справе збору паявых капіталаў. Неабходна ў далейшым больш організавана прыцягваць коопэрацыйны актыў да сыстэматычнай працы сярод шырокіх мас пайшчыкаў па зборы паёў і коопэраваньні. Кадры зборшчыкаў паёў і вярбоўшчыкаў новых пайшчыкаў, якія высунуліся ў ходзе паявой кампаніі з колаў коопэраванага актыву, павінны быць поўнасьцю ўлічаны і ў далейшым атрымоўваць азначаную грамадзкую нагрузку па зборы паёў у відзе цьвёрдых заданьняў.

Улічваючы дасягнутыя вынікі паявой кампаніі, а таксама далейшыя магчымасьці ў справе мобілізацыі сродкаў насельніцтва, сэсія пастанавіла намеціць новыя контрольныя лічбы паявых капіталаў на другую палову бягучага гаспадарчага году і паставіла перад усёю спажывецкаю сыстэмаю задачу давесьці сярэдні разьмер фактычна аплочанага паю ў нізавой сельскай сеці да 1 кастрычніка 1928 году да 6 р. 25 кап. Пры гэтым на сэсіі адзначалася, што пры ўстанаўленьні новых контрольных лічбаў магчымы пераломы у двух напрамках. У адным выпадку новыя контрольныя нормы могуць быць складзены з тэндэнцыяй надзвычайнага зьніжэньня тэмпу паянамнажэньня. Гэта азначала-б зьнішчыць той узровень паянамнажэньня, якога дасягнула сельская сець за апошні квартал. У другім выпадку можа быць процілеглая тэндэнцыя: ня лічачысь ні з чым, бюрократычным шляхам, захапіўшысь дасягненьнямі другога кварталу, даць такія контрольныя нормы, якія будуць зусім ня выконваемымі, і якія паказалі-б, што мы ўзаконьваем стыхійныя мэтоды працы. Пагэтаму неабходна пры ўстанаўленьні новых контрольных лічбаў дакладна ўлічыць асаблівасьці і эканомічныя магчымасьці кожнага паасобнага раёну дзейнасьці спажывецкага таварыства.

Сэсія зьвярнула ўвагу ўсіх коопэрацыйных організацый на тое, што да гэтага часу паявыя абавязкі ніжэйшых звеньняў да вышэйстаячых выконваюцца ня зусім здавальняюча, што значна паслабляе фінансавую ўстойлівасьць сыстэмы. Разам з гэтым сэсія пастанавіла для ўзмацненьня фінансавага становішча спажывецкай коопэрацыі дамагацца на прадстаячых паўгадавых і квартальных сходах упаўнаважаных пераходу ўсіх, не перайшоўшых да гэтага часу, спажывецкіх таварыстваў на 10-рублёвы статутны пай; таксама прызнала неабходным павысіць існуючыя нормы паявых адлічэньняў паміж зьвеньняў. Апошняе пытаньне, як пытаньне статутнага характару, падлягае абгаварэньню і зацьвярджэньню на прадстаячых сходах упаўнаважаных спажывецкіх саюзаў.

Асаблівую ўвагу сэсія зьвярнула на пытаньне аб грашовым становішчы ўсёй спажывецкай сыстэмы Беларусі; сэсія характарызавала гэтае становішча, як вельмі напружданае. У асноўным прычыны, якія выклікалі такое напружданае грашовае становішча, зводзяцца да наступнага. На працягу цэлага шэрагу гадоў тэмп прыросту ўласных сродкаў, як у адносінах прытоку паявых капіталаў, гэтак і ў адносінах гандлёвага намнажэньня, адставаў ад тэмпу і росту ўсяе гаспадарчай дзейнасьці спажывецкай сыстэмы. Пасьпяховае правядзеньне кампаніі па зьніжэньні цэн суправаджалася рэзкім паніжэньнем накладаньняў на тавары, якія аказаліся ніжэй устаноўленых СПА сярэдняўзважаных норм, бо сыстэма патаварнага накладаньня, якая прымянялася рэгулюючымі органамі, не давала магчымасьці выканаць агульную сярэдняўзважаную норму па паасобных зьвеньнях. Гэта нямінуча павінна было прывесьці яшчэ да больш рэзкага скарачэньня намнажэньняў. Характэрна ў гэтых адносінах прывесьці наступныя цыфравыя даныя аб разьмерах прыбыткаў за мінулы 1926-27 гасп. год па паасобных зьвеньнях сыстэмы ў параўнаньні з разьмерамі прыбыткаў 1925-26 гасп. г:

1. Белкопсаюз выйшаў у мінулым 1926-27 гасп. годзе с прыбыткам у 118.000 руб. супроць 336.000 руб. 1925-26 гасп. году, а павінен быў даць прыбытку па нормах СПА 4 0 000 руб.

2. Райсаюзы скончылі 1926-27 гасп. год з прыбыткам у 83.000 руб. супроць 342.000 руб. у 1925-26 гасп. годзе, а павінна было быць прыбытку па нормах СПА 369.000 руб.

3. ЦРК скончылі 1926-27 гасп. год з прыбыткам у 261.000 руб. супроць 859.000 руб. у 1925-26 гасп. годзе, а павінна было быць прыбытку па нормах СПА 950.000 руб.

4. Нізавая сельская сець скончыла 1926-27 гасп. год з прыбыткам у 389.000 руб. супроць 1.117.000 руб. 1925-26 гасп. году, а павінна было быць прыбытку па нормах СПА 1.390.000 руб.

Такім чынам, уся спажывецкая сыстэма скончыла 1926-27 гасп. год з прыбыткам у 841.000 руб. супроць 2.654.000 руб. 1925-26 гасп. году, а павінна было быць па нормах СПА 3.109.000 руб., г. зн. у параўнаньні з нормальным прыбыткам адпаведна нормам СПА спажывецкая сыстэма па ўсіх звеньнях скончыла 1926-27 гасп. год з недаборам прыбыткаў у 2.268.000 руб.

Такое становішча з уласнымі сродкамі спажывецкай сыстэмы да канца 1926-27 гасп. году. Калі да гэтага дадаць цэлы шэраг іншых прычын, як адставаньне скарачэньня выдаткаў сыстэмы ад тэмпу зьніжэньня цэн і накладаньняў на тавары, якія робяць працу спажывецкай сыстэмы ў лепшым выпадку нярэнтабельнай, а ў горшым—стратнай, як пагоршаньне ўмоў разьліку па таварах, скарачэньне разьмераў банкаўскага крэдыту, якія, відавочна, не адпавядаюць патрэбам пашыраючагася тавараразвароту, як рост укладаньняў сродкаў у капітальнае будаўніцтва, няухільна зьвязанае з агульным ростам гаспадарчай дзейнасьці спажывецкай сыстэмы, дык прычыны, якія прывялі да рэзкага пагоршаньня грашовага становішча спажывецкай коопэрацыі Беларусі, будуць выяўлены з вычэрпваючай паўнатою.

Неабходна адзначыць, што за мінулае паўгодзьдзе 1927-28 гасп. году становішча ўласных сродкаў спажывецкай сыстэмы значна пагоршылася, але намеціліся адзнакі некаторага аздараўленьня грашовага становішча.

Сэсія савету намеціла цэлы шэраг мерапрыемстваў, якія павінны ўзмацніць грашовае становішча спажывецкай сыстэмы і забясьпечыць магчымасьць далейшага нормальнага разьвіцьця яе дзейнасьці. У асноўным гэтыя мерыпрыемствы зводзяцца да наступнага: акрамя таго, што было прынята сэсіяй у адносінах узмацненьня збору паявых капіталаў, сэсія прызнала таксама неабходным узмацніць працу па ўцягненьні вольных ашчад насельніцтва ў коопэрацыйны зварот у відзе ўкладаў і авансаў. Гэта праца да апошняга часу яшчэ слаба разгорнута.

Для забесьпячэньня норм намнажэньня, якія ўстаноўлены СПА, сэсія прызнала неабходным і магчымым адмяніць сыстэму накладаньняў на паасобныя тавары, якая прымяняецца да гэтага часу органамі Наркомгандлю. Спажывецкая коопэрацыя дастаткова пасьпела і ўзрасла як гаспадарчая сыстэма для таго, каб накладаньні на паасобныя тавары праводзіць шляхам унутрыкоопэрацыйнага рэгуляваньня.

У якасьці асабліва важнай задачы сэсія надала ў абавязак усім коопэрацыйным організацыям дабіцца поўнага правядзеньня 20-проц. скарачэньня адміністрацыйна-кіраўнічых выдаткаў.

Маючы на ўвазе, што праца па рацыяналізацыі крамнай і складзкай справы патрабуе ўкладаньня значных сродкаў у капітальнае будаўніцтва, неабходна ўзняць пытаньне перад адпаведнымі органамі аб прадастаўленьні спажывецкай коопэрацыі спэцыяльных доўгатэрміновых пазычак. Для гэтай жа мэты сэсія пастанавіла абавязаць усе коопэрацыйныя організацыі ўхутчыць утварэньне фондаў доўгатэрміновага крэдытаваньня шляхам адлічэньняў з прыбыткаў 1926-27 гасп. году. Вось у асноўным вынікі працы VII сэсіі савету.

Сур'ёзна абгаварыўшы ўсе тры пытаньні, якія стаялі ў парадку дня, сэсія вынесла цэлы шэраг практычных рашэньняў, якія павінны будуць легчы ў аснову працы на 2-е паўгодзьдзе бягучага гаспадарчага года і дапамагаць далейшаму ўзмацненьню і разьвіцьцю спажывецкай сыстэмы. Разам з тым сэсія зьявілася як бы падрыхтоўчым этапам да прадстаячага ў чэрвені сходу ўпаўнаважаных Белкоопсаюзу, які павінен будзе ня толькі зрабіць падрахунак дзейнасьці спажывецкай сыстэмы за мінулыя два гады, але і разьвязаць цэлы шэраг важных проблем, якія стаяць перад спажывецкай коопэрацыяй Беларусі.

З. Г. Белоусов

# Молочная кооперация БССР

Бесспорно то, что такие виды производственных кооперативов, как колхозы, молочные артели, машинные, животноводческие т-ва и другие, являются одним из главных средств реконструкции сельского хозяйства на базе обобществления его производственных процессов. И в зависимости от того, как будет развертываться сеть этих об'единений, какова будет их работа по своему содержанию, будет развиваться и процесс обобществления сельского хозяйства.

В настоящей статье мы имеем в виду остановиться на обзоре организационного состояния и развития хозяйственной деятельности молочной кооперации, поскольку она в наших условиях является основным фактором производственного кооперирования.

Несмотря на то, что молочная кооперация появилась в БССР почти одновременно с зарождением общей системы сельско-хозяйственной кооперации,—до 1926 года она все же не имела заметного развития и только в последние два года дала значительный рост. В 1924 г. в системе с.-х. кооперации насчитывалось всего 29 молочных артелей, в 1925 г.—41, в 1926 г.—79 и в истекшем году—156. К настоящему времени их имеется свыше 200 единиц, и в общем числе производственных об'единений всех видов молочные артели занимают до 20 проц. Как видим, большой численный рост молочных артелей имел место в 1927 г. и отчасти в 1926 году.

Кроме молочных артелей, работу по сбыту цельного молока, его переработке ведут также некоторые с.-х. и кредитные товарищества и колхозы. На 1 октября 1927 года таких об'единений имелось 82. В последнее время взята линия на отделение работы по молоку от универсальных товариществ и организацию ее в самостоятельных артелях.

На 1 октября 1927 года вся сеть кооперативов, занятых сбытом и переработкой молока, по видам и отдельным округам представлялась:

| О К Р У Г А | Всех кооперативов, работающ. по молоку | Из них: Молочн. артелей | Из них: С.-х. т-в и колхоз. | Удельн. вес округ. во всей сети |
|---|---|---|---|---|
| Бобруйский | 39 | 29 | 10 | 16,4 |
| Витебский | 43 | 20 | 23 | 18,0 |
| Гомельский | 31 | 14 | 17 | 13,0 |
| Минский | 39 | 25 | 14 | 16,4 |
| Могилевский | 40 | 31 | 9 | 16,8 |
| Мозырский | 16 | 16 | — | 6,8 |
| Оршанский | 15 | 15 | — | 6,3 |
| Полоцкий | 15 | 6 | 9 | 6,3 |
| Итого | 238 | 156 | 82 | 100 |

Наибольшее количественное развитие сети молочных кооперативов мы имеем в Витебском и Могилевском округах, далее в Минском и Бобруйском. Слабое развитие в округах Оршанском, Полоцком и Мозырском. Только в последних двух округах переработка и сбыт молока ведется специальными артелями, во всех же остальных округах, как показывают приведенные цифры, к этой работе в значительной степени привлечены универсальные товарищества и колхозы.

В связи с численным ростом об'единений по сбыту и переработке молока, кооперирование ими крестьянских хозяйств за последние два года в абсолютных цифрах также дало значительный рост. Так, на 1 октября 1924 года было кооперировано 958 хозяйств, на 1 октября 25 г.—1.867, в 1926 г.—3.839 и на 1 октября 1927 г.—11.332 хозяйства, или 1,4 проц. всех хозяйств БССР. Увеличение числа кооперированных хозяйств в 1926 году против предыдущего года на 105 проц., а в 1927 году против 1926 года на 195 проц. Степень кооперирования крестьянских хозяйств по отдельным округам характеризуется следующими показателями:

| ОКРУГА | 1925-26 г | | 1926-27 г. | | Прирост коопериров. в % |
|---|---|---|---|---|---|
| | Число дворов | % кооп. к общему чис. двор. | Число кооперир. дворов | % кооперирован. | |
| Бобруйский | 1.558 | 1,3 | 2.718 | 2,3 | 1,0 |
| Витебский | 318 | 0,3 | 3.032 | 3.4 | 3,1 |
| Гомельский | 120 | 0,1 | 977 | 0,9 | 0,8 |
| Минский | 756 | 0,5 | 1.153 | 0,9 | 0,4 |
| Могилевский | 635 | 0,4 | 1.547 | 1,1 | 0,7 |
| Мозырский | 290 | 0,5 | 467 | 0,7 | 0,2 |
| Оршанский | 162 | 0,7 | 1.228 | 1,3 | 0,6 |
| Полоцкий | — | — | 210 | 0,3 | 0,6 |
| **Всего** | **3.839** | **0.5** | **1 1332** | **1,4** | **0.9** |

Наибольший прирост кооперированных хозяйств имеем в Витебском округе. Слабый темп кооперирования в Мозырском и Минском округах.

При сравнительно быстром абсолютном росте количества кооперированных хозяйств за последние два года, по сравнению с предыдущими годами, молочные артели по числу об'единяемых членов и коров одной артелью являются все же пока организациями мелкого характера. В среднем по Белоруссии на одну артель приходится 76 кооперированных хозяйств и 145 коров Отклонения от этих цифр имеются в округах Витебском, Оршанском и Могилевском, и в сторону уменьшения—в Мозырском, Полоцком, Гомельском и Минском. Самые крупные артели—в Витебском округе, где на одну артель приходится 184 кооперированных хозяйства с 358 коровами, и самые мелкие в Полоцком—хозяйств 53 и коров 85. Резкая разница об'ясняется, главным образом, давностью существования в Витебском округе общественной переработки и сбыта молока и молочных продуктов, с одной стороны, и новизной этой работы в Полоцком округе, с другой. Наличие мелких артелей в таких округах, как Гомельсыий и Минский, об'ясняется тем что в этих округах большое место занимает работа по сбыту цельного молока, и поэтому значительная часть артелей, ведущих эту работу, имеет сравнительно небольшие районы обслуживания.

На 1 октября 1927 года было кооперировано 26.036 коров, что составляет к общему молочному стаду республики всего только 2,8 проц.

Все это говорит о том, что белорусская молочная кооперация до настоящего времени вела работу, главным образом, в направлении развития сети об'единений и недостаточно развернула ее в смысле массового вовлечения членов.

По данным 7 округов, кроме Мозырского, основную массу членов молочных артелей составляют хозяйства двухкоровные—45 проц., далее однокоровные—33,1 проц., с 3 коровами—14,5 проц., с 4 и более—5,6 и

бескоровные—1,3 проц. По комбинированному же признаку, т. е. по коровности, лошадности и посевности, социально-имущественный состав пайщиков представляет: бедняков—22.4 проц., середняков—65,5 проц. и зажиточных—12,1 проц. Как видим, превалирующее значение имеют середняки и беднота. Однако, участие в общем составе пайщиков бедноты только в размере 22,4 проц. является недостаточным. Если же взять некоторые отдельные округа, как, например, Могилевский, Оршанский, Минский и отчасти Витебский, то в них, при весьма высоком удельном весе зажиточной групы пайщиков, удельный вес бедноты низок, особенно в Могилевском округе. По отдельным округам имущественно-социальный состав пайщиков в молочных артелях имеет довольно резкие колебания, как в сравнении с выведенным выше для каждой группы хозяйств средним процентом, так и в сравнении округов между собою.

По тем же 7 округам мы имеем:

| ОКРУГА | Группы хозяйств | | | ОКРУГА | Группы хозяйств | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Бедняков | Середн. | Зажиточн | | Бедняков | Середн. | Зажиточн. |
| Бобруйский | 38,4 | 52,3 | 9,3 | Могилевский | 12,7 | 70,0 | 17,3 |
| Витебский | 21,0 | 71,7 | 7,3 | Оршанский | 18,0 | 67,7 | 13,6 |
| Гомельский | 28,0 | 60,7 | 11,3 | Полоцкий | 26,0 | 66,3 | 7,7 |
| Минский | 18,7 | 63,7 | 17,6 | | | | |

## Производственная деятельность.

Из 156 молочных артелей и 82 сел.-хоз. товариществ и колхозов ведут переработку молока на масло 93 об'единения—39 проц., на сыр 104 об'единения—44 проц., и сбывают молоко в свежем виде 41 об'единение—17 проц. Сбытом молока занимаются округа Минский, Гомельский и Витебский, а во всех остальных округах производится переработка молока на масло и сыр, при чем в Могилевском и Витебском преобладает сыроварение, в Оршанском исключительно сыроварение. а в Мозырском исключительно маслоделие. В 1926-27 году из 238 об'единений и предприятий работало только 218, остальные 20 кооперативов бездействовали. В большинстве артелей округов приемка молока производится не только по количеству, но и по его качеству—жирности. В Минском, например, округе этот способ практикуется во всех артелях. Расчет за молоко по твердым ценам, принцип доплат сдатчикам молока не практикуется. Переработка молока на масло и сыр производится на заводах самого примитивного типа. За весьма небольшим исключением, переработка ведется в наемных крестьянских избах, мало приспособленных и недостаточно оборудованных для нормальной работы, и только 18 артелей имеют специально выстроенные помещения для заводов, оборудованные сыро-масло-подвалы и льдо-хранилища. Таких заводов в Могилевском округе—4, в Витебском, Минском и Оршанском—по 3, Мозырском—2, и Бобруйском, Гомельском и Полоцком—по одному. Пропускная способность этих заводов в среднем рассчитана на 30.000 пудов молока.

Стоимость такого завода вместе с инвентарным оборудованием колеблется от 4 до 6 тысяч рублей. Оборудование всех заводов ручное, механизированной переработки, хотя бы частичной, ни в одном из округов нет.

Основным поставщиком сырья для масло-и сыро-заводов, а также артелей, работающих по сбыту цельного молока, являются члены артелей. Кроме того, поступает молоко и от не членов. Сопоставляя удельный вес членов артелей и не членов в общем количестве сдатчиков молока,

необходимо отметить, что участие пайщиков в производственной работе своих артелей далеко не достаточное и выражается всего в 66,6 проц. к общему числу членов артелей и 68,2 проц. к числу сдатчиков молока. Сдатчики—не члены занимают 31,8 проц. По отдельным округам, по данным 94 об'динений хозяйственная связь пайщиков со своими артелями в смысле заноса молока характеризуется следующими цифрами:

| О К Р У Г А | Комп арт. | В них членов | Сдает молоко | | | | | % чл., сдающ. молоко, к общ. числу пайщ. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Всего | Из них членов | % к числу сдатчиков | Не членов | % к числу сдатчиков | |
| Бобруйский | 15 | 1.485 | 1.050 | 948 | 90,3 | 102 | 9,7 | 63,8 |
| Витебский | 16 | 2.943 | 1.657 | 1 504 | 90,9 | 153 | 9,1 | 51.1 |
| Минский | 22 | 1.384 | 1.347 | 1.087 | 80.7 | 260 | 19.3 | 83,3 |
| Могилевский | 21 | 1.502 | 2.191 | 1.284 | 58,6 | 907 | 41,1 | 85.4 |
| Оршанский | 10 | 1.009 | 1.837 | 722 | 39,9 | 1.115 | 60,1 | 71.5 |
| Полоцкий | 10 | 536 | 580 | 362 | 62,6 | 218 | 37,4 | 40,6 |
| Гомельский | Данных нет. | | | | | | | |
| Мозырский | | | | | | | | |
| **Всего** | **94** | **8 859** | **8 662** | **5.907** | **63.2** | **2.755** | **31,8** | **66,6** |

Приведенная таблица связи также показывает, что в округах Могилевском и отчасти Минском и Оршанском, на ряду с относительно высоким процентом заноса молока пайщиками, большое место занимает и занос от некооперированных хозяйств. Это говорит, с одной стороны, о том, что крестьянское население осознает пользу молочной кооперации, практически оценивает ее выгоду, и, с другой, что в этих округах, в особенности в Оршанском и Могилевском, весьма слабо ведется работа по вовлечению некооперированных сдатчиков молока в члены молочной кооперации.

В 1926-27 году 218 об'единениями принято молока для сбыта в цельном виде и для переработки по заготовительным ценам 14.367,8 т. килограммов на сумму 1.118,0 т. руб., что дает среднюю нагрузку на одну артель в 65,9 т. клгр. на 5,4 т. руб.

В 1925-26 году нагрузка на одно работающее предприятие выражалась в 37,5 т. клгр. Следовательно, в истекшем году имеем увеличение нагрузки на 32 т. кгр., или на 85,5 проц. По отдельным округам нагрузка колеблется:

| | | |
|---|---|---|
| Бобруйский | 62,9 | тыс. кгр. |
| Витебский | 120,8 | „ „ |
| Гомельский | 59,1 | „ „ |
| Минский | 88,0 | „ „ |
| Могилевский | 67,1 | „ „ |
| Мозырский | 90,7 | „ „ |
| Оршанский | 63,5 | „ „ |
| Полоцкий | 24,7 | „ „ |

Несмотря на то, что нагрузка в истекшем году по сравнению с 1925-26 годом увеличилась на 85 проц., она все же чрезвычайно низка для более или менее нормального развития производства. Для рациональной постановки дела в наших условиях необходима нагрузка завода, примерно, в 400—450 т. кгр. в год. Исходя из этой нормы, видим, что наши даже самые крупные производства, каковыми являются предприятия Витебского округа, имеют только 1/4 нормальной нагрузки, Минские—1/5, а в Полоцком округе—всего 1/20.

Заготовительные цены, по которым принималось артелями молоко, колеблются от 10,73 коп. за кгр. в Гомельском округе до 6,33 коп. в Полоцком. По отдельным округам они выражаются: в Бобруйском — 7,56 к., Витебском — 7,77, Гомельском — 10,73, Минском — 9,5, Могилевском — 7,53, Мозырском — 8, Оршанском — 6,89 и Полоцком — 6,33 коп. Средняя заготовительная цена молока — 8,32 коп. за кгр. Резкое отклонение в сторону увеличения от средней цены дают округа Гомельский и Минский и в сторону уменьшения Полоцкий и Оршанский. В первых округах высокие цены об'ясняются тем, что в них молоко на 75 проц. реализовано в цельном виде, а в последних — низкой нагрузкой молоком заводов и отсюда высокими издержками производства.

Из общего количества поступившего в артели молока (14.367,8 т. кгр.) реализовано в цельном виде 3.794 т. кгр., или 26,4 проц., а остальное переработано на масло и сыр, при чем на масло пошло 45,6 проц. и на сыр 28 проц.

Переработка молока велась 177 заводами. Выработано масла 282 т. кгр. на сумму 491,1 т. рублей, сыру 404,9 т. кгр. на 377,7 т. руб. и прочих молочных продуктов на сумму 36,9 т. рублей, а всего стоимость выработанных продуктов выражается в 905,7 т. рублей. Увеличение продукции против 1925-26 года составляет по маслу на 149,6 т. кгр., или 114 проц., и по сыру на 213,6 т. кгр. — 113 проц Себестоимость полученной продукции вместе со свежим молоком составляет 1.200,8 т руб.

Средние выходы масла 24,03 и сыра 9,94 являются удовлетворительными. По отдельным же округам выходы колеблются следующим образом:

| | Масло | Сыр |
|---|---|---|
| Бобруйский | 23,66 | 11,00 |
| Витебский | 22,40 | 10,34 |
| Гомельский | 22,00 | — |
| Минский | 24,50 | 10,90 |
| Могилевский | 24,00 | 8,75 |
| Мозырский | 24,44 | — |
| Оршанский | 24,00 | 11,91 |
| Полоцкий | 25,24 | 10 42 |
| Средний | 24,03 | 9,94 |

Кустарный тип заводов, недостаточное их оборудование, недостаточная квалификация мастеров, отсутствие у населения необходимого опыта и навыков в уходе за молоком являются главными причинами того, что вырабатываемые молочные продукты, особенно сыры, по своему качеству пока оставляют желать много лучшего. По качеству наиболее высокая продукция в тех округах, где молочное производство начало развиваться в последнее время (Оршанский, Минский). В этих округах при организации производства были более строго соблюдены требования, необходимые для правильной постановки работы. По округам качество сырной продукции характеризуется следующими показателями.

| | I сорт | II сорт | III сорт |
|---|---|---|---|
| Бобруйский | 60 проц. | 40 проц. | — |
| Витебский | 60 „ | 40 „ | — |
| Минский | 80 „ | 20 „ | — |
| Могилевский | 75 „ | 25 „ | — |
| Оршанский | 80 „ | 20 „ | — |
| Быв. Слуцкий | 20 „ | 50 „ | 30 проц |

(Продолжение будет).

**Фрыдлянд**

# Да пытаньня аб організацыі Менскага акруговага сельска-гаспадарчага крэдытнага саюзу і прыданьня крэдытных функцый акрсельсаюзам

Правільнае распаўсюджваньне асноўных масавых форм коопэраваньня сялянства патрабуе адзінства ўплыву на сельскія гаспадаркі па лініі дастаўчаска-збытавога и крэдытнага звароту, правільнага злучэньня ўсіх бакоў дзейнасьці с.-г. крэдытных таварыстваў і сувязі іх працы з разьвіцьцём вытворчага коопэраваньня і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, а. галоўным чынам, адзінства агульна-організацыйнага кіраўніцтва будаваньнем і працай сельска-гаспадарчых крэдытных таварыстваў.

Праца будучага с.-г. крэдытнага саюзу ў асноўным павінна грунтавацца на маючыхся ў Менскай акрузе с.-г. крэдытных т-вах. Што датычыцца астатняй кліентуры, то гэтае пытаньне вырашыцца потым.

У сучасны момант па Менскай акрузе маюцца 36 с.-г. крэдытных таварыстваў, якія знаходзяцца пад уплывам Белсельсаюзу—яго мясцовай групы, і Белсельбанку—мясцовага аддзяленьня. Аднак, абслугоўваньне с.-г. крэдытных таварыстваў з боку Белсельсаюзу нязначнае; асабліва трэба падкрэсьліць зусім нязначны збыт імі сваё прадукцыі праз БСС, які складае за 26-27 г. толькі 20 проц. іх збытавога звароту, пры чым па другіх саюзах гэты процант значна большы (у 2—3 разы), што тлумачыцца тым, што Белсельсаюз ня можа абслугоўваць іх пры сучасных умовах—наяўнасьці значнага ліку відаў с.-г. коопэрацыі і нязначнай колькасьці інструктароў. Дрэнна с.-г. крэдытныя таварыствы абслугоўваюцца і з боку БСБ.

Нізавая-ж сетка с.-г. крэдытных таварыстваў Менскай акругі з году ў год павялічваецца, рост паявых капіталаў абганяе рост членаў, агульныя балянсы, запазычанасьць сялянства таварыствам таксама павялічваецца як сумарна, гэтак і адносна, пры чым на працягу 26-27 г.—на 72 проц., а запазычанасьць таварыстваў крэдытным установам—толькі на 53 проц., і з сваіх асноўных капіталаў выдана 2 проц. пазык, ці 30.098 р. Маецца значнае павялічэньне ўкладаў і капіталаў, зьмяншаецца рахунак тавараў, што гаворыць аб пераходзе на шлях комісыйнасьці за конт спэцыяльных сродкаў і наогул аб узмацненьні ўсяе дзейнасьці.

На працягу 26-27 г. усімі 36 с.-г. крэдытнымі таварыствамі насельніцтву было выдадзена 36.638 пазык на сумму 2.097.997 руб., пры чым доўгатэрміновых—33 проц. і кароткатэрміновых—67 проц.

Ёсьць шмат с.-г. крэдытных таварыстваў, якія зьяўляюцца зусім здаровымі і ў 26-27 г. далі прыбыткі, напрыклад, Чэрвенскае, Марына-Горскае, Узьдзенскае, Самахвалавіцкае, Бярэзінскае, Сьмілавіцкае, Шацкае і інш., што можна бачыць з справаздачы па Менскай акрузе, зьмешчанай у нашым бюлетэні.

Такім чынам ёсьць дастатковая база для організацыі Менскага акруговага крэдытнага сельска-гаспадарчага саюзу, які будзе яшчэ больш узмацняць працу нізавой сеці адзіным кіраваньнем і вучотам яе патрэб. Па складзеным мною дапушчальным каштарысе Менскага саюзу таксама відаць, што прыбыткі больш выдаткаў, прыблізна, на 6.714 руб.

Асноўныя опэрацыі саюзу—крэдытныя, якія складаюць 2 млн. руб. Для атрыманьня адпаведных пазык павінны быць заключаны спэцыяльныя дагаворы паміж крэдытным саюзам і БСБ і Усекабанкам, з аднаго боку, і з БСС па таварным крэдытаваньні, з другога боку.

Дастаўчаска-збытавыя опэрацыі ў асноўным павінны весьціся на комісыйна-пасрэдніцкіх пачатках, і па каштарысе яны, напрыклад, складаюць

76,5 проц. агульнага таварнага звароту (ад 1.490 тыс. руб.—1.140). Для вядзеньня таварных опэрацый, згодна статуту, прызначаюцца спэцыяльныя капіталы. Склад капіталаў сельска-гаспадарчага крэдытнага саюзу, прыкладна, будзе наступным:

I. **Асноўны:**

| | | |
|---|---|---|
| Уласныя сродкі з уступных узносаў | 5.291 р. | |
| Паявы капітал . . . . . . . | 60.000 „ | (25% адлічваецца). |
| Пазычковы капітал: | | |
| ад БСБ . . . . . . . . . . | 150.000 „ | |
| „ акрвыканкому . . . . . . | 10.000 „ | |
| | 225.291 р. | |

II. **Спэцыяльны:**

| | |
|---|---|
| Дадатковыя ўзносы ад нізоўкі па 1 р. на члена | 40.000 р. |
| Ад акрвыканкому . . . . . . . . . . | 10.000 „ |
| | 50.000 р. |

Структура апарату с. г. крэдытнага саюзу павінна складацца з 3 асноўных аддзелаў: опэрацыйнага (крэдытнага), таварнага і організацыйнага.

У бліжэйшы час пасьля пасяўной кампаніі, згодна пастановы апошняга пленуму савета БСС, у III кв. 27-28 г. трэба склікаць зьезд прадстаўнікоў с.-г. крэдытных таварыстваў, прыкладна, па наступным модусе:

ад с.-г. крэд. таварыстваў, маючых да 500 членаў, па 1 прадстаўніку
„ „ „ „ „ „ 1.000 „ „ 2 „
„ „ „ „ „больш 1.000 „ „ 3 „

Усяго на зьезьдзе павінна быць каля 100—120 прадстаўнікоў.

На гэтым зьезьдзе патрэбна будзе абгаварыць наступныя асноўныя пытаньні:

1) прыняцьце статуту ўсімі дадаткамі;

2) уступленьне ў сыстэму с.-г. крэдыту і заключэньне адпаведных умоў з БСБ і Ўсекабанкам па крэдытаваньні;

3) уступленьне ў БСС і заключэньне згод па таварным абслугоўваньні;

4) абраньне выбарчых органаў: праўленьня, рэвізыйнае комісіі і савету.

Да зьезду можна будзе ўнесьці на зацьвярджэньне ЭКАНА БССР статут с.-г. крэдытнага саюзу.

Па гэтым статуце трэба адзначыць наступнае:

1) па § 35 уступны ўзнос трэба ўстанавіць у разьмеры 10 проц. ад сумы паявых узносаў;

2) па § 36 паявыя ўзносы ў саюз павінны скласьці ня больш 50 проц. паявых узносаў, якія ўстаноўлены ў тым с.-г. крэдытным т-ве ці пярвічным с.-г. коопэратыве, які ўваходзіць у лік членаў саюзу, пры чым паявы ўдзел с.-г. крэдытных т-в у вышэйшых організацыях ня можа правышаць 25 проц. яго асноўнага капіталу, без пазычковай часткі; адначасова могуць быць складзены спэцыяльныя капіталы паявога прызначэньня;

3) па § 41—спэцыяльныя капіталы на вядзеньне гандлёва-пасрэдніцкіх опэрацый павінны складацца з спэцыяльных узносаў, ня больш 50 проц. ад сумы спэцыяльных узносаў нізоўкі.

Магчыма вылучыць і паасобныя спэцыяльныя капіталы—хлебныя і інш., якія ўваходзяць у агульныя спэц. капіталы на гандлёва-пасрэдніцкія вытворчыя опэрацыі.

Што датычыцца пытаньня аб прыданьні крэдытных функцый акруговым сельсаюзам, то, з майго пункту погляду, у ўмовах БССР яны могуць быць рэорганізаваны ў крэдытсаюзы пры наступных умовах, калі:

1) збытавая праца перавышае снабжэнчаскую, пры чым ня менш 75 проц. гэтых зваротаў падае на нізоўку, з тым разрахункам, каб наогул ня менш паловы зваротаў нізоўкі было ахоплена саюзам;

2) саюз ня мае ні опэрацыйнага ні плацёжнага дэфіцыту, і наогул фінансавая праца праводзіцца па пляне і рэнтабельна;

3) раён дзейнасьці саюзу ахапляе ня менш 30 с.-г. крэдытных т-ваў, пры чым фактычнае коопэраваньне насельніцтва ня менш 25, і паявы капітал, мобілізаван і саюзам, ня менш, чым на 75 проц., а т-вамі—90 проц. усіх узносаў;

4) агульны балянс нізоўкі с.-г. крэдытных таварыстваў павінен быць такім, каб ня было плацёжнага дэфіцыту, і каб ссудныя опэрацыі склалі ня менш 30 проц. да агульнага балянсу;

5) органы кіраўніцтва і працаўнікі павінны ведаць крэдытную работу;

6) справаздачнасьць саюзу і нізоўкі, асабіста рахункаводзтва па крэдытных опэрацыях, павінна весьціся „а-жур".

Да сучаснага моманту ніводзін з нашых акруговых саюзаў, на жаль, не здавальняе гэтым умовам. Чарговая задача саюзаў—весьці працу ў гэтым напрамку, каб зьнішчыць усе зазначаныя недахопы і рэорганізаваць сваю працу на новых пачатках, асабіста перайсьці на рэнтабельнасьць. Гомельскі саюз мае за 26-27 г. 26.000 р. прыбытку, але нізоўка працуе дрэнна; Бабруйскі, Магілеўскі, Мазырскі саюзы за 1 кв. 27-28 г. скончылі працу з прыбыткам; ад іншых саюзаў зьвестак яшчэ няма. Аб прычынах страт саюзаў трэба было-б застанавіцца падрабязна ў другім артыкуле „Аб фінансавым становішчы с.-г. коопэрацыі БССР".

---

Чыж

# Пэрэспктывы разьвіцьця садова-гароднае коопэрацыі БССР [1])

Па сваёй адноснай вазе садаводзтва ў сыстэме сельскай гаспадаркі БССР займала і займае трэцяе месца. Па даваенных даных, доля садаводзтва ў валавым прыбытку сельскай гаспадаркі рэспублікі віхалася ў залежнасьці ад раёнаў ад 7,2 да 10,8 проц.; цяпер-жа гэтая доля яшчэ некалькі ніжэй.

За час вайны і рэволюцыі садаводзтва вельмі пацярпела і яшчэ поўнасьцю не магло быць адноўлена ў такі параўнаўча кароткі тэрмін. Аднак, даныя бягучай статыстыкі і справаздачныя даныя акруговых зямельных аддзелаў паказваюць, што агульная плошча пад садамі цяпер ужо складае 25.000 гэктараў, ці 0,87 проц. ад пасяўной плошчы БССР. Па сваіх карыстацелях гэтая плошча садовых насаджэньняў падзяляецца гэтак: сады трэстыраваных саўгасаў складаюць 1470 гэкт., сады колгасаў—1230 гэкт., сады дзяржаўнай маемасьці, якія знаходзяцца ў арэндзе—4.800 гэкт.; астатняя плошча—17.500 гэкт., ці каля 70 проц агульнай плошчы садоў, знаходзіцца ў самотным сялянскім карыстаньні.

Па радох дрэў сады наогул можна падзяліць гэтак: яблын—70 проц., груш—10 проц., вішань, чарэшань і сьліў—20 проц. Ураджайнасьць нашых

---

[1]) У парадку абгаварэньня.

Прыблізна гэтакі зьмест і іншых лістоў, атрымліваемых ад знаходзячыхся на стажы. Гэта пацьвярджаецца і шэрагам іншых фактаў. Аб гэтым б'юць трывогу і нашы газэты.

Усё гэта стварае такія ўмовы, пры якіх практыкант і стажор марна траціць толькі час, не атрымліваючы ніякае карысьці.

Дрэнна выкарыстоўваюцца і маладыя коопэратары, якія ўжо прайшлі цяжкі пэрыод стажу. Гэтак, у Магілеўскім ЦРК тав І. выкарыстоўваецца ў якасьці касіра, а тав. К. у Гомельскай акрузе ў якасьці рахункавода. Ці патрэбна было, пытаюць гэтыя таварышы, траціць на іх дзяржаўныя сродкі ў час іх навучэньня ў тэхнікуме, каб у рэшце атрымаць касіра, рахункавода,—для гэтага больш чым дастаткова было б гадавых курсаў.

Нам здаецца, што трэба абвясьціць рашучую барацьбу ўсім гэтым ненармальнасьцям, трэба быць больш чуткімі і ўважлівымі да маладых чырвоных спэцыялістых, а таксама рыхтуючагася стаць гэтакімі студэнцтва, у адносінах да іх акадэмічных запатрабаваньняў; нельга-ж кожнаму, каму захочацца, парушаць законы ўраду аб абавязковай практыцы і стажы, аб кіраўніцтве гэтай працай з боку мясцовай організацыі. Трэба, каб кожны кіраўнік коопэрацыйнай організацыі памятаў дырэктыву апошняга аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК ВКП(б) аб тым, што „асаблівую ўвагу неабходна сконцэнтраваць на пытаньні аб падрыхтоўцы новых кадраў чырвоных спэцыялістых і значна пашырыць выкарыстаньне іх у вытворчасьці...“, праводзіў-бы гэта ў штодзённай працы тады, калі пад яго кіраўніцтвам будзе знаходзіцца практыкант ці стажор, і быў больш чутак, уважліў да маладога спэцыялістага, асабліва на першых ступенях яго працы.

Неабходна разам з гэтым утварыць сярод старых працаўнікоў здаровую атмосфэру да маладых спэцыялістых, зьнішчыць такія зьявішчы, якія перашкаджаюць нормальнай падрыхтоўцы кваліфікаванай зьмены; бяз гэтага адна з важнейшых задач усяе савецкай грамадзкасьці па падрыхтоўцы новых спэцыялістых з ліку рабоча-сялянскага маладняку ня будзе выканана, аб неабходнасьці гэтага нам настойліва напамінае выпадак у Шахцінскім раёне.

Прыблізна 15 чэрвеня студэнты Віцебскага коопэрацыйнага тэхнікуму і коопэрацыйна-гандлёвага цыклу факультэту права і гаспадаркі БДзУ накіроўваюцца міжведамственай комісіяй наркомпрацы на практыку, а таксама выпускнікі тэхнікуму на стаж. Неабходна, каб кожная коопэрацыйная організацыя, як цэнтральная, гэтак і на пэрыфэрыі, дэтальна загадзя абмеркавала, як лепей правесьці практыку і як лепей дапамагчы і выкарыстаць новыя кадры, якія выпускам коопэрацыйнага тэхнікуму ўвальюцца ў шэрагі Беларускіх коопэратараў з тым, каб не паўтарыць тых памылак, якія мелі месца ў мінулым

Побач з гэтым трэба будзе, каб вышэйшыя організацыі наладзілі контроль усяму гэтаму; неабходна будзе, каб і РСІ усіх акруг, па прыкладзе Гомелю, зрабіла праверку выкананьня месцамі пастаноў ураду ў галіне падрыхтоўкі новых спэцыялістых. Не магчыма каб і далей было гэтак мала ўвагі і гэтак шмат безадказнасьці! Неабходна паставіць пытаньне аб пэрсональнай адказнасьці за ўсе ненормальнасьці, бюрократызм і г. д., праяўляючыяся да рыхтуючайся зьмены.

Агульная ўвага ўсяе грамадзкасьці ў гэты бок, больш адказнасьці, дзелавога, чуткага, адзыўчага падыходу да маладых коопэратараў, якія павінны ў сваёй працы выканаць вялікія задачы па будаўніцтве новага соцыялістычнага жыцьця! Дарогу маладому спэцыялістаму! Прэч усе сучкі і задорынкі!

Ф. П. Садоўскі

# Коопэрацыйны тэхнікум неабходна рэарганізаваць

Коопэраваць у дастарчаючай ступені шырока і глыбока расійскае насельніцтва пры НЭП'е, калі ўлада дзяржавы на ўсе буйныя сродкі вытворчасьці ў руках пролетарыяту, пры наліччы саюзу гэтага пролетарыяту з многімі мільёнамі дробнага і драбнейшага сялянства і забесьпячэньні кіраўніцтва за пролетарыятам у адносінах да сялянства,—ці-ж гэта ня ўсе, што патрэбна для таго, каб з коопэрацыі, з аднае толькі коопэрацыі, ўтварыць усё неабходнае для пабудовы поўнага соцыялістычнага вобчаства. Гэта яшчэ не пабудова соцыялістычнага вобчаства, але гэта ўсё неабходнае і дастатачнае для гэтай пабудовы. Уласна кажучы, нам застаецца толькі адно: зрабіць наша насельніцтва настолькі цывілізаваным, каб яно ўсё пагалоўна ўдзельнічала ў коопэрацыі.

Гэтыя палажэньні Леніна зьяўляюцца грунтоўнымі ў яго апошнім артыкуле аб коопэрацыі і складаюць зараз першачарговую задачу вялікага ленінскага пляну коопэраваньня.

Конкрэтныя дасягненьні нашага краю ў выкананьні часткі гэтага пляну ўжо гавораць аб надзвычайна шырокім коопэраваньні сялянскіх мас, у прыватнасьці, па БССР да 50 проц. па спажывецкай і ад 35 да 40 проц. па с.-г. коопэрацыі.

Зараз побач з пашырэньнем коопэраваньня на першы плян паўстае пытаньне глыбіні гэтага коопэраваньня па часьці шырокага ўдзелу коопэраванга насельніцтва сродкамі ў сваім коопэратыве. Канчатковае выкананьне гэтых задач цесна ўпіраецца ў цывілізаванасьць нашага краю, у неабходнасьць утварэньня строю цывілізаваных коопэратараў.

Зразумела, для гэтага строю патрэбна падняць пісьменнасьць усяго насельніцтва, патрэбна, як гаворыцца, правесьці культурную рэволюцыю.

У справе правядзеньня гэтай рэволюцыі, як няўхільнага этапу да строю цывілізаваных коопэратараў, коопэрацыйная асьвета павінна заняць адно з першых месц.

Коопэрацыйны тэхнікум павінен зьявіцца, і ўжо ў некаторай частцы зьўляецца, ачагом гэтае асьветы на Беларусі.

Да гэтага часу апошнімі двума выпускамі ён забясьпечыў шэраг коопэратываў БССР тэхнікамі-організатарамі, прыйшоўшымі туды скромнымі рахункаводамі і, маючы добрую тэорэтычную падрыхтоўку, стаўшымі душою коопэратываў, організатарамі іх далейшай, у першую чаргу, організацыйнай і культурнай працы.

Але гэта ня можа здаволіць коопэрацыйнага тэхнікуму і асабліва коопэрацыйнае сыстэмы БССР, бо ахопліваючы організацыйную і культурна-масавую працу, што ўплывае, галоўным чынам, на рост коопэрацыі ў шырыню, выхаванцы тэхнікуму застаюцца ў баку ад опэрацыйна-гаспадарчай працы сваіх коопэратываў, а як відаць з прыведзенай вытрымкі з артыкулу Леніна аб коопэрацыі, удзел пайнікаў у гэтай галіне працы сваіх коопэратываў характарызуе глыбіню коопэраваньня насельніцтва.

Сама-ж гэтая галіна працы коопэрацыі, асабліва па галіне ахвату коопэраваных сялянскіх гаспадарак загатоўкамі, знаходзіцца ў руках чужога і часта варожага нам ідэолёгічна элемэнту, у руках учорашніх гандляроў, а часта і гандлюючых ад сябе адначасова з нахаджэньнем на пасадзе, загатаўцеля ў коопэртыве.

Вынікі гэтага — падрыў загатовак, наяўнасьць чыста гандлярскіх мэтадаў падыходу іх да сялян пры загатоўках для коопэратыву, падзел загатоўленага за дзень сабе і для коопэратыву, неразмежаванасьць авансаў коопэратыву пры загатоўках сабе і коопэратыву, утварэньне ажыотажу ў часы загатовак, прыводзячага да зрыву конвэнцыйных цэн, рэгуляваньня загатоўкамі і да зрыву самых загатовак. Асабліва балюча сказалася адсутнасьць сваіх чырвоных спэцаў па загатоўках у 1927-28 гаспадарчым годзе, калі ў значнай меры, дзякуючы гэтаму, мы маем такое дрэннае становішча на загатавіцельным фронце.

Задачу падрыхтаваць чырвонага спэца, таваразнаўцу з ухілам загатавіцеля да коопэрацыі БССР, загатавіцеля, асьвечанага ў тэхнікуме, побач з падрыхтоўкай тэхнікаў-організатараў, павінен узяць на сябе Беларускі Дзяржаўны Коопэрацыйны Тэхнікум.

У гэтых мэтах неабходна і рэорганізаваць тэхнікум.

Схэма гэтай рэорганізацыі паводле меркаваньняў пэдагогічнай рады тэхнікуму, прыкладна, гэтакая:

1) тэхнікум павінен быць 4-гадовым, бо нават і пры цяперашняй установоўцы, пры надзвычайна нязначнай колькасьці часу па вучэбным пляне па агульна-адукацыйных дысцыплінах, эконамічным і грамадзкім, пры адсутнасьці мажлівасьці ўвесьці ў тэхнікуме выкладаньне колектывізацыі сялянскай гаспадаркі і хаця-б аднае чужаземнай мовы, тэхнікум ня ўкладваецца ў дзённыя гадзіны заняткаў, а частку пляну праходзіць вечарам;

2) да існуючых 2 аддзяленьняў — с.-г. і спажывецкай коопэрацыі,— рыхтуючых організатараў для 2 асноўных сыстэм, неабходна дабавіць 3-цяе таваразнаўчае аддзяленьне для падрыхтоўкі для абедзьвюх сыстэм таваразнаўцаў-загатавіцеляў зерня, валакна, сыравіны;

3) падзел па гэтых 3 аддзяленьнях павінен адбыцца з 3-га курсу, на 3-м і 4-ым курсе—ўся ўвага спэцыяльным дысцыплінам пры амаль поўным адсутнічаньні на гэтых курсах агульна-адукацыйных і грамадзкіх дысцыплін.

Плян разьмяркаваньня дысцыплін па курсах і аддзяленьнях пэдрадай тэхнікуму ў чарнавіку апрацован з вучотам належнага часу на практыку, за падобную рэорганізацыю выказаліся ўсе коопэрацыйныя сыстэмы Віцебскай акругі, ім-жа, а таксама і Белсельсаюзу, належаць і першыя думкі гэтай рэорганізацыі.

Мажлівасьць багатай практыкі ў гэтым напрамку ў Віцебскіх умовах есьць —і надзвычайна багатая мажлівасьць.

Па-першае, практыка будзе праводзіцца на складах саюзаў і Віцебскіх т-ваў, праводзячых загатоўкі ў прыгародным раёне, па-другое, наяўнасьць у Віцебску ільна-прадзільнай фабрыкі „Дзьвіна“ і праца яе з валакном дасьць мажлівасьць яшчэ больш удасканаліць на практыцы тэорэтычныя веды па таваразнаўстве гэтага ўхілу. Гэта дасьць мажлівасьць доўгі час, пакуль не пабагацее наша дзяржава, абыйсьціся без організацыі пры тэхнікуме спэцыяльных лябораторый хаця-бы па валакне. Справа гэта ня трывае адкладу. Пажадана, каб уся коопэрацыйная сыстэма тэрмінова выказала свае думкі і погляды па гэтым пытаньні і дапамагла тэхнікуму хутка рэорганізавацца ў выкладзеным напрамку.

---

Шаевич

# Выгодны ли водные перевозки

В журнале «Шлях Коопэрацыі», № 5, есть несколько статей относительно того, выгодно ли работать по перевозкам грузов водным транспортом.

Из практики работы прошлого года по Бобруйскому округу—при получении соли, завезенной водным путем, мы имеем следующее:

1. Получение соли в количестве одного вагона отдельным потребобществом невозможно. Необходимо получать целую баржу. Для этого необходимо помещение для хранения большого запаса соли, что вызывает большой расход (по содержанию помещения, убыль при хранении и др.).

2. Анализируя произведенные расходы по выкупам и разгрузке поступившей соли, мы имеем следующее:

### По Рогачеву.

При получении вагона соли по жел. дороге тариф обходится 304 р. с вагона плюс высыпка и выгрузка 12 руб. (на базу при жел. дороге).

При получении же этого количества соли через госпароходство тариф стоит 302 руб.; зато доставка и связанные с ней расходы (двойная выгрузка) стоит 60 руб.

Таким образом, соль, поступившая водным путем, обошлась на 46 руб. дороже.

### В Бобруйск.

Вагон соли с жел. дороги стоит 308 руб. 83 коп.

Доставка—45 руб., всего—353 руб. 83 коп.

Водным путем стоит 305 руб. 25 коп. и доставка 55 руб., всего—360 р. 25 к., опять-таки дороже на 6 р. 42 к.

В м. Свислочь жел. дорогой до станции Завишино—381 р. (с перевозкой). Водным путем—387 р. 95 к.—дороже на 6 р. 95 к.

Спрашивается, авторы статей, которые писали о том, чтобы перейти на завоз грузов водным путем, достаточно ли они учли, имеет ли от этого выгоду кооперация.

Обратили ли они внимание, что не всегда можно доставить водным путем грузы и по тем обстоятельствам, что надо завозить большими партиями в запас, что практически для кооперации весьма неудобно, кроме того, нет приспособленных у п. о. для этого помещений.

Госпароходству нужно выработать такие условия, которые были бы действительно приемлемыми и выгодными кооперации.

А пока, при таких условиях, кооперация вынуждена от этого отказываться.

Левинсон

# По поводу статьи тов. Шаевича

Автор, безусловно, вполне своевременно поднимает вопрос о технике и выгодности перевозок водным путем, но выдвигаемые им мотивы невыгодности не совсем показательны. Понятно, что не всегда и не всюду могут быть применимы водные перевозки по причинам технического порядка, а также не всегда и не всюду водные перевозки выгодны. Но не все моменты, на которые ссылается автор, правильны. Начнем по порядку.

Не знаю, с чего взял автор, что соль необходимо завозить большими партиями. Опыт осенней навигации 1927 года показал нам как раз обратное: водным путем можно завозить любую партию даже и меньше вагона, а по железной дороге как раз меньше вагона мы не можем завозить. В район Бобруйского союза мы завозили же партиями далеко не такими большими. Так например, в Селибское потребобщество было сгружено 1.000 пуд. Еще больше таких случаев мы имеем по Гомельскому району. Совершенно нет надобности в том, чтобы в каждое отдельное потребительское общество завозить по барже, т. е. по 20-25 000 пудов. Важно только, чтобы в одном направлении отправлялось 20-25.000 пуд. для того, чтобы использовать тоннаж, а в отдельные потребительские общества можно завозить не только меньше баржи, но и меньше вагона. Теперь по вопросу о тарифах. Как видно, автор не вполне знаком с условиями договора с госпароходством, по которому организации при получении соли в пункты, где имеются железнодорожные станции, уплачивают тариф на 4 проц. ниже, чем по железной дороге, и поэтому говорить о том, что тариф до Бобруйска водным путем обходится дороже, чем по железной дороге, нельзя, тем более, что в этом году тариф на перевозку соли водным путем понижен еще на 20 проц.

Еще один момент, говорящий в пользу водных перевозок,—кредит, который предоставляет госпароходство. При том положении, когда тариф на соль составляет 250 проц. стоимости соли, мы считаем, что вопрос кредита на тариф является довольно актуальным тем более, что это беспроцентный кредит. В настоящий момент, когда финансовое положение потребкооперации такое напряженное, вопрос средств является слишком серьезным вопросом.

Автор статьи упускает совершенно еще один момент, который мы считаем очень и очень важным,—это вопрос экономии в перевозках потребобществ. Мы имеем такие факты: Березинское потребобщество находится не при железной дороге. Доставка от ближайшей железнодорожной станции (Гродзянка, Борисов) обходится до 40 коп. с пуда. При перевозке же водным путем доставка обходится не более 5 коп. с пуда, и, таким образом, достигается экономия в 35 коп. с каждого пуда. Мы привели только один пример, таких примеров можно привести много, и мы думаем, что по тому же Бобруйскому округу можно привести не мало, а экономия 35 коп. на пуде соли играет, по нашему, не малую роль.

В заключение нужно сказать, что, безусловно, вопрос водных перевозок нуждается в изучении. Для нас этот вопрос совершенно новый. В практике работы потребительской кооперации могут встретиться случаи, когда водные перевозки не выгодны, но нельзя из этих отдельных случаев делать заключение о невыгодности водных перевозок вообще. Все же приятно отметить, что то, что наши организации начали задумываться, интересоваться вопросами транспорта,—это свидетельствует о сознательном отношении к вопросам нашей торговой работы.

С. Клебанов

# Впечатления с‘езда

„Собственно говоря, нам осталось „только“ одно: сделать наше население настолько цивилизованным, чтобы оно поняло все выгоды от поголовного участия в кооперации и наладило это участие“.

*Ленин.*

С 2-го по 4-е марта происходил в Могилеве 3-й с‘езд уполномоченных кустарно-промысловой кооперации Могилевского округа.

Работа с‘езда, несмотря на молодость организации (2 с лишним года), говорила о здоровом и гигантском росте, что возможно только в условиях советской действительности под руководством коммунистической партии.

С‘ездом были заслушаны доклады о работе центра (Белкустпромсоюза), отчет правления и ревизионной комиссии Могпромсоюза и др. вопросы.

В указанных докладах была отмечена та громадная работа, которую провели БКПС и Могпромсоюз за истекший год по кооперированию разрозненных кустарей-одиночек, организации снабжения сырьем и сбыта их изделий и по финансированию последних.

Были отмечены достижения и недочеты.

Если первый год работы Могпромсоюза прошел под знаком организации кустарей-одиночек в артели и проникновения в местечки, то истекший 1926-27 г. показывает значительные успехи не только в организации, но и в укрупнении однородных артелей, проникновении в деревню (значительный проц. крестьянских артелей), рост ученичества, уменьшение наемных рабочих (13 человек на 845 членов артелей). За истекший год низовая сеть окрепла значительно в финансовом отношении.

На ряду с хозяйственным ростом сети также выросли активность и сознательность кустарной массы в целом, а в связи с этим и культурно-экономические запросы, что выявилось во время работы с‘езда. По каждому докладу задавалась масса вопросов, и делались дельные замечания. В прениях участвовало 60 проц. делегатов.

Показателем политического роста массы является реагирование с‘езда на суд над Белорусской Громадой в Польше горячим протестом.

С‘езд не оставил без внимания один из актуальных вопросов, выдвинутых партией,—о капитало-накоплении и на клич: „создавайте социалистическое накопление в артелях“,—с‘езд единодушно ответил увеличением паевых отчислений в союз и увеличением размеров паев в артелях.

Учитывая недочеты в работе Могпромсоюза по кооперированию за истекший период, выразившиеся в недостаточном кооперировании женщин и молодежи, в недостаточном вовлечении бедняцких слоев города, местечка и деревни, слабом проведении культработы и недостаточном учете социального состава артелей, с‘езд дал директиву правлению союза исправить указанные недочеты.

На ряду с отмеченным ростом политической сознательности кустарной массы наблюдается наличие незначительной группы кустарей-бузотеров, которые, прикрываясь лозунгами партии о защите бедноты, демагогически выступая, старались внести разлад в работу с‘езда.

Своими выступлениями они хотели влить ложку дегтя в бочку меда, но они были правильно поняты и оценены с‘ездом, в результате чего с этой группки была сорвана маска, и получилось, как в басне Крылова с змеей, которой крестьянин отрубил голову.

# КООПЭРАЦЫЯ ЗА МЕЖАМІ

Карл Биттель

## Потребительские товарищества за границей

*(Серия статей)*

### ГЕРМАНИЯ

В течение ряда лет немецкие потребительские товарищества организованы в два центральных об'единения. Одно из них, существующее уже 25 лет,—„Центральное Об'единение Немецких Потребительских Товариществ“, в Гамбурге, и другое, меньшее „Христианско-Католическое Государственное Об'единение, в Кельне. Обе организации совершенно самостоятельны, имеют свои собственные оптово-закупочные общества, свои газеты, ревизионные органы и т. д.

В 1927 году годовой оборот немецких потребительских товариществ впервые перевалил за миллиард марок и тем самым достиг приблизительно 30-й части общего торгового об'ема в своей товарной области. Из них Центральное об'единение имело 982 миллиона марок, и государственное об'единение около 150 миллионов марок.

Рассмотрим несколько ближе деятельность Центрального об'единения, которое охватывает, главным образом, рабочие потребительские товарищества, стоит близко к свободным профсоюзам и в большинстве руководится социал-демократами. Приблизительно, около 25 местных товариществ находятся под коммунистическим руководством.

Из только что опубликованных цифр Центрального об'единения видно следующее: всего существует 1026 местных потребительских товариществ (которые частично являются крупными районными организациями), имеющих оборот в 982 миллиона марок в 9230 распределительных пунктах при 2,93 млн. пайщиков и собственном капитале в размере 4',43 млн. марок. Это составляет на одного пайщика 335 марок годового оборота и лишь 15,15 марок собственного капитала. Существенной составной частью капитала потребительских товариществ являются сбережения пайщиков—всего 208 миллионов, или на каждого пайщика 70,75 марок. Эти цифры значительно колеблются в отдельных товариществах и районных об'единениях. Например, оборот Саксонских потребительских товариществ составляет 441 марку на члена, а в Восточной Германии—только 248 марок. Сберегательные взносы в Северо-Западной Германии составляют 126 марок на каждого члена, а в Юго-Западной Германии—лишь 31,52 марки.

Естественно, что Центральное об'единение значительно перешагнуло свои довоенные цифры, но относительно еще заметно влияние инфляционного периода. В данное время экономическая мощь движения немецких потребительских обществ все еще гораздо слабее, чем до войны. При 1,62 млн. членов оборот в то время составлял 493 миллиона, или 287 марок на члена, что соответственно нынешней товарной ценности составит не меньше 420 марок. Итак, за 18 лет никакого развития, а, наоборот, отступление до 335 марок. Паевые взносы также составляли в то время при нынешней товарной ценности 10,28 марок, а теперь лишь 4,52 марки на члена. Только сберегательные взносы абсолютно и относительно увеличились.

Бесспорно, что после инфляционной катастрофы немецкие потребительские товарищества находятся в непрерывном процессе восстановления. Стоит только вспомнить цифры 1924 года, чтобы понять глубокую разницу. Здесь несколько цифр.

На одного члена в Центральном об'единении:

| | 1914 г. | 1924 г. | 1926 г. | 1927 г. |
|---|---|---|---|---|
| | (в марках) | | | |
| Обороты | 287,00 | 159,00 | 253,00 | 335,00 |
| Паевые взносы | 19,66 | 4,35 | 10,97 | 15,15 |
| Сберегательные взносы | 16,72 | 14,37 | 43,06 | 70,75 |

Очень серьезным симптомом в потребительских товариществах является движение членов. До войны было 1,72 млн. членов. Во время войны и после нее число членов превысило (1916 г.) 2 миллиона, в 1924 г. оно составляло 3,51 млн., а после этого из года в год падало до начала 1928 года до 2,93 млн. За последние 2 года выбыло не менее 338.000 и 508.000; число вновь вступивших составляло всего 165.000 и 254.000. Кооперативная буржуазия ограничивается заявлением, что выбывшие являются не чем иным, как пришельцами инфляционного периода, от которых потребительские товарищества должны быть очищены. Несомненно, что это очень выгодный прием для прикрашивания статистического благополучия. Но в то же время это доказывает заслуживающую внимания слабость притягательной силы потребительских обществ, которые не могут даже удержаться на уже достигнутом уровне количества членов. Если при этом уходят даже классово-сознательные рабочие из-за разочарования и досады на мелкобуржуазную политику руководителей, то это с точки зрения классово-политических задач, несомненно, является ошибкой, но очень поучительной. По сравнению с довоенным процент рабочих и служащих среди членов сократился на 10,42 проц. и составляет сейчас 68,28 проц.

Из опубликованных до сих пор материалов не видно, насколько улучшилось за последние годы хозяйственное положение потребительских предприятий. Кажется, что Центральное об'единение и в дальнейшем намерено хранить молчание о размерах чисто-торговых расходов (которые позволили бы сравнение с частным хозяйством), обороте товаров и прочих мелочах. Единственные опубликованные в этом направлении цифры показывают все-таки еще очень большое отставание от довоенного: тогда годовой оборот на каждую потребительскую лавку при нынешней денежной ценности составлял около 143.000 марок, в Саксонии—даже 156.000 марок; сейчас же—не более 95.500 марок. Настолько сейчас работает впустую распределительный аппарат потребительских товариществ. Равным образом обстоит дело с оборотом на обслуживающий персонал, где хотя при союзных переговорах требовалось 42.000, но фактически достигнуто лишь 24.400 марок при 36 000 чел. персонала.

Товарная масса упала до 11,74 проц. оборота и тем самым снова почти достигла довоенного уровня—11,51 проц. Имущественное положение также достигло почти прежнего. Задолженность по товарам все еще составляет 3,59 проц. (в 1914 г.—только 2,16 проц.); на лицо также задолженность банкам в размере 2,55 млн., совершенно неизвестная до войны. Скидки и чистая прибыль далеко еще не достигли процентных цифр 1914 г. (4,60 проц. против 8,57 проц.). В виду скидок и дивидендов было распределено 35,7 млн., в резерве—4 млн., и на социальные цели отпущена смешная сумма в размере 0,7 млн. и то не в пользу рабочего движения.

Собственная продукция потребительских товариществ повыслиась до 241 млн., из них 137 млн. дают пекарни и мясные. Это означает катастрофическое положение в области хлебной продукции по сравнению с довоенным. На каждого члена приходится сейчас лишь на 47 марок продукции пекарен, в то время как до войны было вдвое больше

38 проц. своих товаров потребительские товарищества приобретали в оптово-закупочных обществах, в Гамбурге, против 32 проц. до войны (товарная масса значительно больше, так как речь идет здесь об оптовых ценах). Тем самым оптово-закупочные общества достигли оборота в 373 млн. марок (в 1914 г. лишь 158 млн. марок), из них 17 проц., или 63 млн., падают на собственную продукцию, в то время как до войны было лишь 10,5 млн., или 6,6 проц. Это сравнительно сильное развитие оптово-закупочных обществ является наибольшим плюсом немецких потребительских товариществ.

В заключение несколько слов по поводу единичных 1.026 потребительских товариществ. В большинстве это мелкие организации; свыше 900 из них имеют годовой оборот менее 1 миллиона. Впереди шагают 12 крупных товариществ, в настоящее время больше чем с 10 млн. годового оборота. Они дают свыше $^{1}/_{3}$ из 982 млн. 4 самые большие из этих потребительских товариществ показывают следующие цифры:

| | Членов | Лавок | Оборот в 1928 г. | Состояние к 1/I-1927 г. | На 1 члена |
|---|---|---|---|---|---|
| Гамбург . . . . . . . . | 94.938 | 387 | 5,39 млн. | +33,1 проц. | 58,55 мар. |
| Дрезден . . . . . . . . | 70.650 | 157 | 4,14 „ | +40,6 „ | 58,54 „ |
| Берлин . . . . . . . . | 146.264 | 214 | 4,05 „ | +30,4 „ | 27,68 „ |
| Лейпциг . . . . . . . . | 51.226 | 139 | 2,92 „ | +32.6. „ | 57,05 „ |

Эти большие общества развиваются сравнительно быстро, как вообще процесс концентрации.

Ясно, что мы имеем здесь перед собой вполне современные жизнеспособные крупные торговые предприятия для вовлечения широких масс в потребительские общества. В индустриальных центрах и столичных городах они сталкиваются с сильной капиталистической конкуренцией.

Потребительские товарищества смогут развиваться лишь при наличии более значительных сил. Самым главным источником при этом является сила пролетарских масс, которые должны быть использованы для развития движения потребительских товариществ. Сейчас мы имеем на лицо обратное, и это является сильнейшим пассивом в работе Центрального объединения. Вместо того, чтобы теснейшим образом солидаризироваться с пролетарским движением, Гамбургское руководство ведет исключительно классово-враждебную политику по отношению к рабочим. Последствия этой политики проявляются в недостатках ее экономического развития.

# ПА КООПЦЭНТРАХ

## Усім коопсаюзам, іх аддзяленьням і ЦКР Беларусі

Прадстаячае сьвяткаваньне Міжнароднага Дню Коопэрацыі павінна быць усімі коопэрацыйнымі організацыямі своечасова і дакладна падрыхтована з тым, каб у ім прыймалі актыўны ўдзел усе слаі працоўных мас Беларусі.

У агульнай працы па падрыхтоўцы сьвяткаваньня ўсім коопэрацыйным організацыям неабходна загадзя паклапаціцца аб дастатковым снабжэньні шырокіх коопэраваных мас свайго раёну адпаведнай коопэрацыйнай літаратурай на мясцовых мовах, прысьвечанай Міжнароднаму Дню Коопэрацыі.

Для пасьпяховага правядзеньня сьвяткаваньня неабходна, каб уся выдаваемая Цэнтральным Коопэрацыйным Саветам Беларусі літаратура, прысьвечаная МДК, была выдана і разаслана на месцы загадзя. Пагэтаму ЦКСБ просіць В/ зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі і прысылкі яму матар'ялу аб дзейнасьці і становішчы як самой В/ організацыі, гэтак і ўсяе абслугоўваемай В/ пэрыфэрыі.

Вельмі пажадана атрымаць ад В/ больш характэрныя фотографічныя зьнімкі В/ прадпрыемстваў і культурна-бытавых устаноў у процэсе іх працы.

Адначасова з гэтым ЦКСБ просіць Вас паведаміць яго аб колькасьці літаратуры (лістовак, лёзунгаў і часопісаў), прысьвечанай сьвяткаваньню МДК, патрэбнай Вам для снабжэньня усяе Вашае пэрыфэрыі.

Адказны сэкратар Цэнтральнага Кооперац. Савету БССР **Фікс.**

---

## Об организации заочных курсов при ЦКСБ

Общая хозяйственная и культурная отсталость нашей страны, обусловленная историческим прошлым, вообще сильно затрудняет нас в работе социалистического строительства. В кооперативном же строительстве эти трудности дают себя особенно сильно чувствовать. Зачастую отсутствие на местах квалифицированных работников, коим вполне можно было бы доверить иметь дело с общественными ценностями и выполнение работы статистического порядка, заставляет вопросу подготовки квалифицированных работников кооперации, главным образом счетных работников, уделять много внимания.

Но многим товарищам, работавшим раньше или даже работающим теперь в кооперативных организациях и не имеющим теоретической подготовки, все же нет надобности тратить целые годы на обучение в специальных учебных заведениях, отрываясь от практической работы для того, чтобы заполнить свои пробелы.

Учитывая это, Наркомпрос БССР утвердил организацию заочных курсов бухгалтерии, калькуляции и статистики, подчинив их центральному кооперативному совету Белоруссии.

Курсы имеют своею целью повышение квалификации работников низовой кооперативной сети.

Круг лиц, обслуживаемых курсами, устанавливается следующий:

1) работники счетоводства, которые получили знания путем практики, но не имеют необходимой теоретической подготовки для полного уяснения того дела, которое они ведут;

2) работники сельхозов, колхозов и крестьянских кооперативов различных видов, как-то: председатели и члены правлений, члены ревизионных комиссий и рядовые работники, коим в ежедневной их работе приходится встречаться с учетом различных ценностей;

3) иные лица, не работающие в настоящее время в кооперации, но рекомендуемые для обучения на курсах низовыми ячейками различных видов кооперации.

Все поступающие на курсы должны быть не моложе 16 лет и иметь общее образование в об'еме не ниже 4-х групп семилетней школы, в подтверждение чего они высылают соответствующие документы. Поступающие на курсы заполняют специальные анкеты и заявления, бланки коих получают от курсов по высылке 2 восьмикопеечных марок.

На курсах предполагается организация 3 циклов: потребительской кооперации, сельско-хозяйственной кооперации и кредитной кооперации.

Учебный план курсов утвержден следующий:

| | | |
|---|---|---|
| 1) Общее и торговое счетоводство | 100 | час. |
| 2) специальное счетоводство: а) для цикла потребительской кооперации | 60 | „ |
| б) „ „ сель-хоз. кооперации | 100 | „ |
| в) „ „ кредитной „ | 60 | „ |
| 3) коммерческая арифметика и калькуляция | 100 | „ |
| 4) анализ баланса | 32 | „ |
| 5) кооперативная статистика | 25 | „ |
| 6) основы кооперации | 28 | „ |
| 7) кооперативное законодательство | 5 | „ |
| 8) делопроизводство | 14 | „ |
| 9) экономическая география | 20 | „ |

Срок обучения на всех 3-х циклах установлен в 8 месяцев.

В зависимости от степени подготовки учащиеся распределяются на группы. В основу обучения на курсах кладутся лекции, практические занятия, ответы на предложенные учащимися вопросы и литература. Проработка материалов проводится следующим образом: каждая лекция сопровождается рядом вопросов, на которые курсант обязан дать подробные ответы в письменной форме. Вдобавок к лекциям, для большего их усвоения, курсантам даются темы практических работ, решение которых учащиеся высылают на курсы для проверки. Ответы на вопросы учащихся состоят: в полных и подробных об'яснениях учащимся ошибок, допущенных ими в ответах и решениях практических работ, а также в рефератах, представленных на курсы для проверки; в указаниях и раз'яснениях вопросов, поднятых по инициативе самих учащихся; в указаниях литературы, которая должна быть проработана учащимися. Литературу учащимся рекомендуют преподаватели курсов, указывая, на какие отделы должно быть обращено особое внимание.

Курсы высылают слушателю особую карточку, которая служит ему для составления плана работ на указанный преподавателем срок. По выполнении слушателем работы карточка, со сделанными на ней отметками учащегося, отсылается на курсы.

Учащийся по каждому пройденному отделу читаемых предметов представляет письменную работу, которая дается преподавателем. Проверенная и исправленная работа отсылается учащемуся обратно, при чем удовлетворительно выполненная работа считается для учащегося и зачетом.

Для лиц, желающих получить об окончании курсов специальное свидетельство, назначаются выпускные экзамены по всем предметам учебного плана. Экзамены проводит особая комиссия, в состав которой входят заведующий курсами, представитель Центрального Кооперативного Совета и 2 преподавателя курсов.

Плата за весь курс обучения установлена в 32 р. В эту сумму входит стоимость высылаемых курсантам лекций и практических тем для работы, а также почтовые расходы по пересылке просмотренных работ и ответов на предложенные вопросы. В случае неполучения слушателем в срок лекций и указаний, необходимо срочно ставить об этом в известность курсы. Одновременно с заявлением и анкетой поступающий на курсы высылает вступительный взнос в размере 1 р. и в качестве задаточной суммы 4 р. в счет платы за первый месяц. По получении вступительного взноса и задаточной суммы подписавшийся зачисляется в число курсантов, и ему за 2 восьмикопеечных марки высылается специальное удостоверение, имеющее силу в течение 2 месяцев. Несвоевременная уплата взносов вызывает увольнение слушателя с курсов. Внесенная плата возвращению не подлежит.

# Рэзолюцыі сэсіі Савету БКС ад 11—14 красавіка 1928 г.

## Па дакладу т. Консана аб ітогах загатоўчай працы за 1-е паўгодзьдзе 1927-28 г. і пэрспэктывах на 2-е паўгодзьдзе

Заслухаўшы даклад аб ітогах загатоўчай працы за першае паўгодзьдзе 1927-28 г., 7-я сэсія Савету БКСаюзу канстатуе, што загатоўчая кампанія спажыўкоопэрацыі ў працягу мінулага паўгодзьдзя не атрымала свайго разьвіцьця ў адпаведнасьці з організацыйна-экономічнымі магчымасьцямі ўсяго апарату спажыўсыстэмы. Асноўнымі прычынамі, меўшымі ўплыў на слабы тэмп разгортваньня загатовак, зьяўляюцца:

1. Праводзімая рэгулюючымі органамі, у асаблівасьці мясцовымі, лінія на зьніжэньне ролі спажыўкоопэрацыі ў загатоўках, што выявілася ў поўным адхіленьні ад загатовак шчаціны, конволасу, пянькі і значным зьніжэньні адноснай вагі ў загатоўках скурсыравіны, ільна і пушніны.

2. Недаацэнка з боку як паасобных спажыўсаюзаў, гэтак і БКС (за 1-ы квартал) і значнай часткі нізоўкі важнасьці разьвіцьця загатовак, што прывяло да абыякай адносіны да абмяркоўваных мерапрыемстваў, праводзімых мясцовымі органамі па адносіне загатоўчай працы спажыўкоопэрацыі, досыць часта супярэчачай распараджэньням Наркомгандлю.

3. Адрыў значнай часткі нізавой сеці ад саюзаў, прымушанай з прычыны адхіленьня апошніх ад загатоўкі целага шэрагу відаў сыравіны працаваць з дзяржорганамі, што зьбаўляла саюзы магчымасьці кіраваць загатоўчай працай нізоўкі.

4. Недастатковае фінансаваньне паасобных загатоўчых опэрацый (мяса) і несвоечасовае атрыманьне сродкаў на загатоўкі экспортных відаў сыравіны.

5. Канстатуючы значнае зрушэньне ў загатоўчай працы спажыўкоопэрацыі ў працягу другога кварталу бягучага году, 7-я сэсія Савету БКС усё-ж лічыць маючыяся дасягненьні недастатковымі.

6. Выходзячы з таго, што апошнімі распараджэньнямі НКГандлю ўтворана дастаткова ўстойлівая база для далейшага разгортваньня загатоўчай працы спажыўкоопэрацыі і лічачы неабходным гэту галіну працы, асабліва ў адносіне экспортных відаў сыравіны, паставіць у цэнтр увагі ўсяе спажыўсыстэмы, як адну з важнейшых галін яе працы, сэсія Савету пастанаўляе:

а) прыняць меры да ўзмацненьня загатоўчага апарату як БКСаюзу, гэтак і саюзаў і спажыўтаварыстваў;

б) пашырыць асортымэнт загатовак спажыўсаюзаў, асабліва па другарадным экспорце, уцягваючы ўсе саюзы і нізавую сець у працу па загатоўках усіх відаў сыравіны;

в) праўленьню БКС узмацніць інструктаваньне саюзаў, а апошнім—нізавой сеці па пытаньнях загатовак, шляхам распаўсюджваньня кіраўніцтва па загатоўках плякатаў і лістовак па паасобных відах сыравіны; у мэтах падняцьця кваліфікацыі нізавога апарату лічыць мэтазгодным організацыю ў гэтым годзе спэцыяльных курсаў па перападрыхтоўцы загатавіцеляў з сяброў праўленьняў і прыказчыкаў, ведаючых загатоўчай працай;

г) улічваючы недастатковасьць фінансаваньня загатовак як з боку пакупацеляў, гэтак і з боку банкаў, з прычыны чаго ў загатоўках увязьлі агульна-опэрацыйныя сродкі, даручыць праўленьню БКС дабіцца паляпшэньня фінансаваньня загатовак як шляхам павялічэньня авансаў з боку пакупацеляў, гэтак і па лініі банкаўскага крэдыту;

д) канстатуючы нярэнтабельнасьць некаторых загатовак, асабліва па другарадным экспорце, лічыць неабходным зьвярнуць асаблівую ўвагу па усіх зьвеньнях спажыўсыстэмы навокал утрыманьня ўстанаўліваемых цэн і скарачэньня накладных выдаткаў;

е) з прычыны таго, што страты па экспорце могуць служыць прычынай скарачэньня загатовак, даручыць праўленьню БКС дабіцца своечасовага компэнсраваньня страт спажыўкоопэрацыі як грашовымі датацыямі, так і компэнсраваным імпортам; уперад да рэалізацыі экспорту на знадворным рынку лічыць неабходным устанаўленьне фінансаваньня экспорту ў адпаведнасьці поўнай сабекаштоўнасьці адгружаных тавараў;

ж) у мэтах забесьпячэньня выкананьня плянаў загатовак і для стымуляваньня павялічэньня загатоўчай працы спажывецкай коопэрацыі лічыць неабходным увязваць таварапастарчэньне імпортнымі і асобна дэфіцытнымі таварамі з загатоўчай працай па ўсіх зьвеньнях коопэрацыйнай сыстэмы;

з) праўленьню БКС палепшыць пастаноўку інформацыі союзаў аб становішчы сыравіннага рынку як па ўнутраным, гэтак і знадворным рынку, для чаго ўзмацніць сувязь з замежнымі канторамі Цэнтрасаюзу;

і) улічваючы, што цэлы шэраг спажыўтаварыстваў яшчэ прадаўжаюць здаваць загатаўляемую сыравіну другім дзяржаўным і коопэрацыйным загатаўцелям, што значна зьніжае экспортныя магчымасьці спажыўсыстэмы, лічыць неабходным узмацніць унутрыкоопэрацыйную дысцыпліну, лабіваючыся рэалізацыі спажыўтаварыствамі ўсіх сваіх загат вак выключна праз саю ы;

к) у мэтах дасягненьня найбольшай чоткасьці ў загатавіцельнай працы лічыць неабходным дачу саюзамі цьвёрдых штомесячных заданьняў на ўсе сыравінныя загатоўкі, выходзячы з загатавіцельных плянаў і асаблівасьцяй кожнага раёну паасобку;

л) побач з узмацьненьнем апарату спажыўтаварыстваў лічыць неабходным уцягненьне ў загатоўкі ўсяго коопэрацыйнага актыву, скарыстоўваючы ў якасьці зборшчыкаў самых пайшчыкаў; у мэтах ажыўленьня працы ў глыбінных пунктах рэкомэндаваць спажыўтаварыствам пашырыць арганізацыю чырвонага карабейніцтва;

м) з прычын важнасьці ня толькі для справаздачнасьці. але і для практычнага кіраўніцтва загатоўчай працай поўнага і своечасовага атрыманьня вед, завайстрыць увагу як саюзаў, так і ўсей спажывецкай коопэрацыі на сваечасовае прадстаўленьне вед аб загатоўках у ўстаноўленыя тэрміны;

н) пляны загатовак на II паўгодзьдзе:

па сыравіне . . . . . . . . . . . . . . . . . . 3.917.924 руб.
„ зерняпрадуктах . . . . . . . . . . . . . . . 576.000 „
„ экспорце . . . . . . . . . . . . . . . . . . 781.000 „

зацьвердзіць.

о) сэсія Савету лічыць неабходным, каб пляны загатовак, зацьвярджаемыя НКГандлем для ўсяе коопэрацыйнае сыстэмы, разьмяркаўваліся паміж саюзамі коопэрацыйным цэнтрам і на мясцох не зьмяняліся мясцовымі інспэктарамі гандлю.

## Загатавіцельны плян Белкоопсаюзу на 2-ое паўгодзьдзе 27-28 г. па заданьнях НКТ па організацыях

(прыняты 7-й сэсіяй Савету Белкоопсаюзу 11-14 красавіка 1928 г.)

| | Удз. вес 25 пр. Скурсыравіна | | | В процантах | | | | | | | | | 25 проц. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 12 | 30 | 30 | 30 | 25 | 25 | 30 | | | | | |
| | Буйная | Дробная | Футравыя жарабкі | Ільно-валакно | Пенька | Рызьзе | Шчацiна | Конволас | Лекрасьліны і смарчкі | Яйкі | Грыбы | Сялянскае палатно | Мяса | Рознае | |
| Бобруйскі А. С. | 3000 | 12000 | 1600 | 50 | 15 | 315 | 9,5 | 4,0 | 10 | 150 | 20 | 5 | 200 | 80 | 431065 |
| Гомрайсаюз . | 6670 | 33000 | 2700 | 150 | 20,5 | 567 | 11,5 | 4,5 | 35 | 500 | 30 | 5 | 500 | 70 | 835490 |
| Дняпросаюз . | 6670 | 33000 | 6000 | 430 | 260 | 462 | 13,5 | 6,0 | 10 | 900 | 8 | 5 | 230 | 80 | 864980 |
| Вітпатрэбсаюз | 6380 | 37125 | 2700 | 672 | — | 378 | 8,5 | 4,0 | 15 | 900 | 5 | 25 | 840 | 60 | 1125456 |
| Б. К. С. . . . | 6280 | 22375 | 3000 | 45 | 4,5 | 378 | 13,0 | 5,5 | 65 | 1150 | 17 | 40 | 230 | 60 | 660033 |
| **Усяго** | **29** | **137,5** | **16000** | 675 1347 | **300** | **2100** | **56** | **24** | **135** | **3600** | **80** | **80** | **2000** | **350** | **3917024** |

УВАГІ: Плян складзены з разрахунку: скурсыравіны, жарабкоў—у штуках; ільнонасеньне, пенька, рызьзё, шчаціна, конволас і мяса—у тоннах; лекрасьліны, грыбы, палатно і рознае—у рублёх; яйкі—у скрынках, па 1440 шт. у скрынку.

Каштоўнасьць у сярэднім: 1 шт буйнай скуры—10 р., дробнай—3 р. 25 к., жарабкоў—7 р. 0 к. ільно і пенька—350 р. тонна, рызьзе—225 р., шчаціна і конволас—2440 р., яйкі—50 р. скрынак, мяса—500 р. тонна.

# Рэзолюцыі VII сэсіі савету Белсельсаюзу

## Па дакладзе т. Наулянскага аб фінансавым становішчы спажыўкоопэрацыі

Заслухаўшы даклад тав. Наулянскага аб фінансавым становішчы спажыўкоопэрацыі БССР, VII сэсія савету БКС констатуе, што:

Фінансавае становішча спажыўкоопэрацыі Беларусі ў агульным прадстаўляецца вельмі напружаным. Асноўныя моманты, вызваўшыя такое становішча, заключаюцца ў наступным:

а) тэмп ўзрастаньня ўласных сродкаў, па лініі збору паявых капіталаў і гандлёвага намнажэньня, у працягу шэрагу лет, і ў асаблівасьці мінулага гаспадарчага году, быў недастатковым;

б) пасьпяхова праведзеная кампанія зьніжэньня цэн, рэзкае паніжэньне накладаньняў на тавары да разьмераў, не адпавядаючых установленым СПА сярэднім нормам паставілі ўсю сыстэму прад фактам рэзкага скарачэньня намнажэньняў;

в) скарачэньне выдаткаў адставала ад тэмпу правядзеньня зьніжэньня цэн і накладаньняў на тавары і ў выніку гэтага прывяло да стратнай ці ў лепшым выпадку да мала рэнтабельнай працы коопорганізацыі;

г) пагоршаньне ўмоў разрахунку па таварах падвоіла фінансавае напружэньне сыстэмы тым больш, што рост банкаўскага крэдыту далёка не компэнсаваў патрэбнасьцяў у сродках, якія былі вызваны пагоршаньнем умоў разрахунку і неабходнасьцю ўтрыманьня павялічаных таварных запасаў;

д) вострая патрэбнасьць у разгортваньні крамнай сеткі, абсталяваньні хлебапякарэнь і сталовак па рабочай і сельскай сеці, абсталяваньне складачных памяшканьняў у ЦРК і саюзах, пры адсутнасьці дастатковых дзяржаўных сродкаў на капітальнае будаўніцтва, прымусілі шэраг організацый улажыць са сваіх і без таго бедных сродкаў зваротных у гэтыя мерапрыемствы вялікія сумы.

Усе гэта прывяло да значнага скарачэньня ўласных зваротных сродкаў сыстэмы і да рэзкага пагоршаньня яе фінансавага становішча.

У мэтах забесьпячэньня фінансавай сталасьці спажыўкоопэрацыі Беларусі і для забясьпячэньня магчымасьцяй нормальнага разьвіцьця працы VII сэсія савету лічыць неабходным правесьці наступныя мерапрыемствы:

1.Прадаўжаць з неаслабным тэмпам працу па зьбіраньні паявога капіталу ад насельніцтва, лічачы гэта адным з важнейшых мерапрыемстваў паляпшэньня фінансавага становішча. Усямерна дабівацца ў гэтай адносіне поўнага і своечасовага выкананьня контрольных лічбаў. Разам з гэтым праводзіць рэгулярныя ўнутрысыстэмныя разрахункі па ўнясеньні паёў у спажыўсаюзы і БКС.

2. Разам са зборам паёў накіроўваць узмацнёную увагу на прыцягненьне сродкаў ад насельніцтва ў відзе ўкладаў. У гэтых мэтах прапанаваць праўленьню БКС паставіць у законадаўчых органах рэспублікі пытаньне аб распаўсюджваньні на спажыўкоопэрацыю ў адносінах укладных опэрацый усіх існуючых у крэдытнай коопэрацыі і дзяржаўных касах ашчаднасьці правіл прыему хаваньня і выдачы ўкладаў.

3 Дабіцца забесьпячэньня ўсім звеньням сыстэмы норм намнажэньня, устаноўленых СПА, для чаго лічыць неабходным прывесьці нормы накладаньня на асобныя тавары ў адпаведнасьць з сярэднімі нормамі накладаньня. Даручыць праўленьню БКС паставіць гэта пытаньне прад дзяржаўнымі організацыямі.

4. Усім організацыям спажыўсыстэмы неабходна накіраваць узмацнёную ўвагу да давядзеньня ўзроўня выдаткаў да ўстаноўленых норм, забясьпечыўшы пры гэтым поўнае правядзеньне 20-проц. скарачэньня адмін. кіраўнічых выдаткаў, пры немагчымасьці поўнага скарачэньня організацыі спажыўсыстэмы павінны згаджаць пытаньне з органамі НК РСІ.

5. Усім організацыям зьвярнуць увагу на ліквідацыю ненормальна-высокай дэбіторскай запазычанасьці, на давядзеньне таварных запасаў да нормальных разьмераў і на рэалізацыю маючайся мясцамі таварнай залежы.

6. Выходзячы з таго,што праца па рацыяналізацыі крамнай і складзкай справы запатрабуе ўкладаньня вялікіх сродкаў у будаўніцтва магазынаў і складаў, даручыць праўленьню БКС паставіць прад адпаведнымі організацыямі пытаньне аб аказаньні садзейнічаньня спажыўсыстэме ў гэтай справе шляхам предастаўленьня спэцыяльных доўгатэрміновых пазык на будаўніцтва.

Адзначаючы, што будаўніцтва па спажыўсыстэме ідзе без усякаго пляну і кіраўніцтва як у адносінах разьмераў будаўніцтва, так ў сэнсе тыпу будоулі, ускласьці на праўленьне БКС кіраўніцтва будаўніцтвам па спажыўсыстэме па лініі ўстанаўленьня масштаба працы і распрацоўкі тыпаў будоулі і тэрмінаў будаўніцтва.

7. Пацьвердзіць пастанову праўленьня БКС ад 7 сакавіка г.-г. аб разьмерах і способах стварэньня, на падставе пастановы СНК Саюзу ад 20/II-28 г., фонду доўгатэрміновага крэдытаваньня спажыўкоопэрацыі шляхам адлічэньняў з прыбытаў усіх організацый спажыўсыстэмы за 26-27 і 25-26 гады. Абавязаць спажыўсаюзы к ЦРК праізьвесьці з ОДК Беларускага Аддзяленьня Ўсекабанку поўны разрахунак

па сваіх адлічэньнях не пазьней 1 чэрвеня гэтага году. Абавязаць спажыўсаюзы неадкладна прыступіць да збору 10 проц. адлічэньняў у ОДК ад спажывтаварыстваў і скончыць гэту працу не пазьней 15 чэрвеня г. г. Прапанаваць спажыўсаюзам устанавіць і прадставіць на зацьвярджэньне праўленьня БКСаюзу сьпісак с.-т., якія павінны праізвадзіць адлічэньні з прыбыткаў у ОДК. прапанаваць праўленьню БКС мець нагляданьне за выкананьнем гэтай пастановы.

8. Усім організацыям правадзіць строгую плянавасьць ва ўсіх галінах працы і ў прыватнасьці ў галіне вядзеньня фінансавай гаспадаркі. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на своечасовае складаньне і паўнату фінансава-крэдытных плянаў. дзе павінны дакладна паказвацца патрэбныя банкаўскія сродкі, у тым ліку і на пакрыцьцё астаткаў тавараў, броніруемых НКГандлем.

Адначасова з гэтым VII сэсія савету прапануе праўленьню БКС дабівацца:

а) палепшэньня ўмоў разрахунку па гэнумовах і інш. дагаворах у адпаведнасьці са зварачваемасьцю асобных тавараў;

б) звароту ў спажыўсыстэму праз фонд доўгатэрміновага крэдытаваньня пагашаемых доўгатэрміновых дзяржаўных пазычак;

в) атрыманьня дастатковых доўгатэрміновых дзяржаўных пазычак на капітальнае будаўніцтва;

г) ухутчэньня звароту спажыўсыстэме паёў, унесеных у ўстановы, спыніўшыя крэдытаваньне спажыўкоопэрацыі.

---

## Па дакладзе аб выніках паявой кампаніі па сельскай сеці

1. Сэсія савету констатуе, што ў выніку ўсіх мерапрыемстваў, прынятых у другой квадры, сельская сець спажыўсыстэмы дасягнула рэзкага пералому ў адносінах прытока паявых капіталаў. Паявая кампанія за другую квадру дала наступныя вынікі: заданьне па зборы паявых капіталаў выканана на 188,8 проц. (у абсолютнай суме сабрана 972.780 р.), а ўсяго за 1-е паўгодзьдзе сабрана паявых капіталаў 1.207.763 р., што складае 111,5 проц. гадавога контрольнага заданьня. Коопэравана за паўгодзьдзе 100.454 чал., што складае 110,4 проц. гадавога контрольнага заданьня. Сярэдня-аплачаны пай з 2 р. 73 к. на 1/X 1927 г. дасягнуў 4 р. 68 к. да 1/IV 1928 г., што складае 110,2 проц. гадавога заданьня.

2. Вопыт мінулай кампаніі паказаў, што рэальныя вынікі паявая кампанія дала галоўным чынам дзякуючы ўзмацнёнай увазе да яе з боку савецкай, партыйнай і коопэрацыйнай грамадзкасьці і дзякуючы ўзросту сувязяй спажыўкоопэрацыі з шырокімі масамі пайшчыкаў.

Посьпеху паявое кампаніі садзейнічала адзінства мерапрыемстваў спажыўсыстэмы ў ажыцьцяўленьні пастаўленага заданьня, падвядзеньне цьвёрдага плянавага базысу ў гэтай працы (устанаўленьне квадравых контрольных норм для асобных с.-тав., увядзеньне сыстэматычнага і сталага кіраўніцтва і праверкі за выкананьнем контрольных заданьняў, павышэньне адказнасьці праўленьняў с.-тав. і г.д.).

3. Разам з гэтым адным з грунтовных стымулаў у справе пасьпяховага прытоку паёў, як паказаў вопыт усяе паявое кампаніі, зьявіўся мэтад ужываньня мер простага экономічнага ўплыву на пайшчыка (пераважнае забесьпячэньне недастатковымі таварамі поўнапайных пайшчыкаў і тых, хто своечасова і акуратна пагашае сваю паявую запазычанасьць. адмова ад папярэдняй практыкі пагалоўнай і працяжнай растэрміноўкі пая і др.).

4. Асноўны вывад, які можна зрабіць на падставе ходу паявой кампаніі ў другой квадры, заключаецца ў тым, што ўсе організацыйныя мерапрыемствы саюзу далі здавальняючыя вынікі і магчымасьць дабіцца рашучага пералому ў справе прытоку паявых капіталаў. Аднак, гэтыя посьпехі зьяўляюцца толькі першымі крокамі да выкананьня асноўнай і важнейшай задачы: дабіцца такой удзельнай вагі паявых капіталаў у агульным балянсе, каб яны зрабіліся асноўнай крыніцай фінансаваньня коопэрацыйнага таваразвароту.

5. Неабходна ў далейшым, каб праца па мобілізацыі паявых капіталаў праводзілася ня шляхам часовай ударнай кампаніі, а рабілася на падставе сыстэматычна і дакладна распрацаваных практычных мерапрыемстваў і на падставе вопыту і заданьняў мінулай кампаніі, сталай крыніцай паянамнажэньня ў нізавой сельскай сеці. У прыватнасьці неабходна практыкаваць і ў далейшым дачу дырэктыўных норм па паях і пайшчыках для спажыўтаварыстваў. Гэта мера павінна садзейнічаць узмацненьню плянавага пачатку ў справе коопэраваньня і мобілізацыі паявых капіталаў.

6. Разам з узмацненьнем мер грамадзкага пачатку, мэтад матарьяльнага ўплыву на пайшчыкаў, ня выконваючых сваіх паявых абавязкаў прад коопэратывам, павінен і ўперад ужывацца ў якасьці найбольш рэальнага сродка барацьбы с паявой запазычанасьцю. Разам з тым неабходна спажыўсаюзам сваю працу па матар'яльным абслугоўваньні, забесьпячэньні і крэдытаваньні кожнага асобнага спажыўтаварыства ставіць у залежнасьць ад яго дасягненьняў у галіне мобілізацыі паявых капіталаў.

